ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 8 (46)

## ЖНІВЕНЬ 1936 г.

МЕНСК—1936

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



№ 8 (46)

ЖНІВЕНЬ 1936 г.



МЕНСК—1936

# ПАСТАНОВА № 347

## Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

*ад 8 мая 1936 г.*

### Аб унясенні змен у справаздачнасць калгасаў, сельсоветаў і райвыканкомаў па злучной кампаніі.

На падставе распараджэння СНК СССР ад 28 красавіка 1936 г. за № 202 Цэнтральнае Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота Дзяржплана СССР пастанаўляе:

1. Дапоўніць форму № 22 калгаснай, № 13 сельсовецкай і № 30 райвыканкомаўскай справаздачнасці „Аб ходзе злучной кампаніі" наступнымі паказчыкамі:

а) пакрыта (уключаючы штучнае асемяненне) тонкарунымі і цыгайскімі баранамі авец і ярак, належачых калгасам, усяго . . . . . . галоў;

б) пакрыта (не ўключаючы штучнага асемянення) калгаснымі тонкарунымі і цыгайскімі баранамі авец і ярак, належачых калгаснікам і аднаасобнікам, усяго . . . . галоў;

в) у тым ліку грубашэрсных . . . . галоў.

Устанавіць, што сельсовет у сваёй зводцы прастаўляе паказаныя вышэй звесткі толькі па даных, атрыманых ім ад калгасаў, не прыбягаючы да збору дадатковых звестак праз сельупаўнаважаных альбо якім-небудзь іншым шляхам.

2. Устанавіць штодэкаднае прадстаўленне справаздачнасці калгасаў (па ф. № 22), сельсоветаў (па ф. № 13) і райвыканкомаў (па ф. № 20) аб ходзе злучкі кабыл на працягу сакавіка—ліпеня месяцаў і аб ходзе злучкі авец на працягу верасня—снежня месяцаў.

3. Устанавіць, што пункты штучнага асемянення прадстаўляюць зацверджаную для іх справаздачнасць не непасрэдна ў край (обл.) зямельныя кіраўніцтвы, а праз райземаддзелы, для чаго пералік справаздачнасці райвыканкомаў дапоўніць наступнымі формамі:

а) ф. № 112—дэкадная справаздача аб ходзе штучнага асемянення авец і буйнай рагатай жывёлы;

б) ф. № 113—разавая справаздача аб акоце штучна асемянёных матак;

в) ф. № 114—разавая справаздача аб ацёле штучна асемянёных кароў;

г) ф. № 115—разавая справаздача аб правядзенні штучнага асемянення авец.

Нам. Начальніка Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага
Учота Дзяржплана СССР Папоў

# ПАСТАНОВА № 518

## Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*ад 29 ліпеня 1936 года.*

### Аб зацверджанні справаздачнасці калгасаў, сельсоветаў і райвыканкомаў „Аб метызацыі коней, буйнай рагатай жывёлы і авец“ і справаздачнасці соўгасаў НКЗема СССР „Аб прадажы калгасам племянных быкоў, бараноў і свіней і аб прадажы жывёлы калгаснікам“.

На падставе рашэння СНК СССР ад 21 ліпеня 1936 г. № 202—152 Цэнтральнае Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць для калгасаў, сельсоветаў і РВК форму месячнай справаздачнасці „Аб метызацыі коней, буйнай рагатай жывёлы і авец“ у якасці дадатку да месячнай справаздачы „Аб ходзе злучной кампаніі“.

У сувязі з гэтым адмяніць п. 1-шы пастановы ЦКНГУ ад 8 мая 1936 г. № 347 „Аб дапаўненні месячнай справаздачнасці калгасау (ф. № 22), сельсоветаў (ф. № 13) і РВК (ф. № 30) „Аб ходзе злучной кампаніі““ паказчыкамі аб метызацыі авец.

Устанавіць, што сельсовет у сваёй зводцы „Аб ходзе метызацыі коней, буйнай рагатай жывёлы і авец“ прадстаўляе звесткі толькі па даных, атрыманых ім ад калгасаў, не прыбягаючы да збору дадатковых звестак праз сельупаўнаважаных альбо якім-небудзь іншым шляхам.

2. Зацвердзіць для племсоўгасаў НКЗема СССР месячную справаздачнасць „Аб прадажы калгасам племянных быкоў, бараноў і свіней і аб прадажы жывёлы калгаснікам“ у якасці дадатка да месячнай справаздачы племсоўгасаў па жывёлагадоўлі.

Для астатніх соўгасаў сістэмы НКЗема СССР дапоўніць квартальную справаздачу па жывёлагадоўлі (ф. № 15) двума

паказчыкамі: а) прададзена калгаснікам авец і ярак і б) прададзена калгаснікам цёлак.

Абавязаць учстатаддзел НКЗема СССР: 1) забяспечыць калгасы, сельсоветы і РВК інструкцыйнымі ўказаннямі па запаўненню справаздачы аб метызацыі жывёлы; 2) прадставіць у аддзел зацверджання справаздачнасці ЦКНГУ зацверджаныя гэтай пастановай формы, а таксама і інструкцыйныя ўказанні ў 5 экземплярах.

Нам. начальніка Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР Папоў

## ЗАГАД № 234

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота Дзяржплана СССР

*ад 29 чэрвеня 1936 г.*

§ 1.

З прычыны нагружанасці планавымі заданнямі раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота ў 1 квартале 1937 года прапаную тэрмін правядзення кантрольнага ўчота ўстаноў народнай асветы перанесці з 1 студзеня 1937 года на 1 кастрычніка 1936 г.

§ 2.

Аддзелу ўчота кадраў, культуры і навукі прапаную ў тэрміновым парадку распрацаваць інструментарый па кантрольнаму ўчоту, забяспечыўшы яго друкаванне не пазней 1 верасня, а рассылку на месцы не пазней 10 верасня г. г.

§ 3.

Начальнікам КНГУ саюзных і аўтаномных рэспублік і начальнікам абласных і краявых КНГУ прапаную ўключыць у план работ участковых і раённых інспектароў на перыяд з 1 па 15 кастрычніка 1936 г. правядзенне кантрольнага ўчота ўстаноў народнай асветы.

Нам. начальніка Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР Папоў

## ЗАГАД № 271

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*ад 25 ліпеня 1936 г.*

У апошні час наглядаюцца выпадкі, калі КНГУ і раённыя інспектары поўнасцю альбо часткова затрымліваюць раз'езныя сродкі ўчастковым інспектарам. Гэтыя раз'ез-

ныя ўтрымліваюцца па рознага рода матывах, як-та: для набыцця коней (Казахстан, Грузія), у сувязі з наяўнасцю ва ўчастковых інспектароў веласіпедаў (Зах. Сібір, Край КНГУ, Тат. КНГУ) і г. д.

Лічу зусім недапушчальным якія-небудзь урэзкі раз'езных сродкаў, прылічваючыхся ўчастковым інспектарам, і загадваю:

1. Начальнікам КНГУ безадкладна (з ліпеня месяца) спыніць якія-небудзь утрыманні поўнасцю альбо часткова раз'езных сродкаў, якія прылічваюцца ўчастковым інспектарам.

2. Раз'езныя павінны адпушчацца штомесячна разам з зарплатай у выглядзе безадчотных сум, у поўным размеры, устаноўленым загадам ЦКНГУ ад 10 кастрычніка 1935 г. № 262 і адпаведнымі загадамі КНГУ саюзных рэспублік. Дапускаецца толькі часовае ўтрыманне з раз'езных сродкаў кошту веласіпедаў, адпускаемых данаму ўчастковаму інспектару (пры наяўнасці яго згоды на гэта), прычым пасля ўтрымання кошту веласіпеда раз'езныя павінны выплачвацца па-ранейшаму у поўным размеры.

3. Катэгарычна забараняецца скарыстанне якіх-небудзь сум раз'езных, прызначаных для ўчастковых інспектароў, для патрэб КНГУ альбо раённых інспектур.

4. Начальнікам КНГУ забяспечыць кантроль за выдачай участковым інспектарам раз'езных у поўным аб'ёме.

5. Абавязваю ўчастковых інспектароў у кожным выпадку недаатрымання раз'езных ставіць непасрэдна ЦКНГУ у свядомасць для расследвання і накладання спагнання на асоб, вінаватых у невыкананні гэтага загада.

6. Гэты загад давесці да ведама кожнага раённага і ўчастковага інспектара.

Нам. начальніка Цэнтральнага Кіраўніцтва
Наргасучота Дзяржплана СССР Папоў

## Усім акруговым, гарадскім і раённым фінаддзелам

## Усім акруговым кіраўніцтвам Наргасучота, гарадскім, раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота

Кіраўніцтва масавых плацяжоў НКФ БССР і Кіраўніцтва Наргасучота БССР прапануюць прыняць да кіраўніцтва наступныя тэхнічныя паказанні, звязаныя з правядзеннем сельгаспадатку ў адносінах рабочых і служачых, якія вядуць падсобную сельскую гаспадарку.

Пастановай ЦВК і СНК СССР ад 20 ліпеня 1936 года „Аб прадленні дзейнічання Палажэння аб сельскагаспадарчым падатку" ўстаноўлена, што да абкладання сельгаспадаткам не прыцягваюцца:

а) гаспадаркі рабочых і служачых—членаў калгасаў, у якіх асноўны работнік к моманту правядзення ўчота аб'ектаў абкладання знаходзіцца на пастаяннай рабоце па найму не менш аднаго года, а астатнія працаздольныя члены данай гаспадаркі, апроч навучаючыхся і асобы, вядучай хатнюю гаспадарку, таксама працуюць па найму;

б) адпавядаючыя гэтым умовам, але не знаходзячыяся ў калгасах гаспадаркі рабочых і служачых, калі іх падсобная сельская гаспадарка не перавышае размераў, дазволеных статутам сельгасарцелі для калгаснікаў данага раёна.

Гаспадаркі рабочых і служачых, поўнасцю адпавядаючыя гэтым умовам, але ў якіх асноўны работнік знаходзіцца на пастаяннай рабоце па найму к моманту ўчота аб'ектаў абкладання па сельгаспадатку менш аднаго года, прыцягваюцца к абкладанню сельгаспадаткам па стаўках, устаноўленых для гаспадарак калгаснікаў.

Такім чынам можа аказацца, што ў пагаспадарчую кнігу для рабочых і служачых (форма № 3-а) пры адкрыцці асабовых рахункаў былі запісаны асобныя гаспадаркі рабочых і служачых, якія па новаму закону падлягаюць абкладанню сельгаспадаткам па стаўках для калгаснікаў або аднаасобнікаў.

Пагэтаму неабходна перад складаннем дапаможных спісаў для налічэння сельгаспадатку ўважліва праверыць асабовыя рахункі ў кнізе ф. № 3-а і дакладна ўстанавіць, якія з унесеных у гэту кнігу гаспадарак падлягаюць па закону абкладанню сельгаспадаткам.

Райфа абавязаны забяспечыць перанос такіх гаспадарак у кнігі ф. ф. 2 або 3 і забяспечыць па іх налічэнне сельгаспадатку, кіруючыся наступнымі паказаннямі.

1. Гаспадаркі рабочых і служачых, якія знаходзяцца ў калгасах, калі яны падлягаюць абкладанню сельгаспадаткам па стаўках калгаснікаў, пераносяцца ў кнігу ф. № 2. Пры налічэнні сельгаспадатку гэтыя гаспадаркі не вылучаюцца ў асобную групу, а запісваюцца ў дапаможныя спісы ф. № 4-в разам з астатнімі гаспадаркамі.

2. Гаспадаркі рабочых і служачых, якія не знаходзяцца ў калгасах, калі яны падлягаюць абкладанню сельгаспадаткам як аднаасобнікі, запісваюцца ў кнігу ф. № 3. Пры налічэнні сельгаспадатку гэтыя гаспадаркі запісваюцца ў дапаможныя спісы ф. № 4-г разам з астатнімі аднаасобнікамі.

3. Гаспадаркі рабочых і служачых, якія не знаходзяцца ў калгасах, але падлягаюць абкладанню па стаўках калгаснікаў (гэта значыць са стажам работы па найму менш ад-

нага года), запісваюцца ў асобную кнігу ф. № 2, або ў асобную частку гэтай кнігі, з адзнакай, „Гаспадаркі рабочых і служачых, абкладаемыя па стаўках калгаснікаў“. Пры налічэнні сельгаспадатку гэтыя гаспадаркі запісваюцца ў асобны ад астатніх калгаснікаў спіс ф. № 4-в.

Кадравыя рабочыя і служачыя соўгасаў, калі яны падпадаюць пад дзейнічанне арт. 69 закона (у новай рэдакцыі), вызваляюцца ад сельгаспадатку па іх падсобнай сельскай гаспадарцы на аднолькавых падставах з усімі астатнімі рабочымі і служачымі. Пагэтаму неабходна, каб пры правядзенні сельгаспадатку былі поўнасцю ўлічаны і прыцягнуты к абкладанню сельгаспадаткам усе тыя кадравыя рабочыя і служачыя соўгасаў, якія не адпавядаюць патрабаванням паказанага арт. 69 закона.

Інструкцыяй Цэнтральнага Кіраўніцтва Наргасучота па сельсовецкаму ўчоту на 1936 год і пастановай Цэнтр. Кіраўніцтва Наргасучота № 204 ад 8 сакавіка г. г. устаноўлена, што рабочыя і служачыя, якія жывуць на землях соўгасаў, улічваюцца ў пагаспадарчых кнігах ф. № 3-а сельсоветамі.

Прапануецца раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота праверыць, ці выкананы гэтыя паказанні Цэнтр. Кіраўніцтвам Наргасучота і забяспечыць, каб усе гаспадаркі рабочых і служачых, якія знаходзяцца на землях соўгасаў, былі запісаны ў пагаспадарчыя кнігі і каб у гэтыя кнігі былі ўнесены ўсе звесткі, прадугледжаныя праграмай сельсовецкага ўчота, насельніцтва, (пасевы, жывёла і г. д.).

Райфінаддзелы абавязаны ўважліва праверыць даныя пагаспадарчых кніг па ўчоту гаспадарак рабочых і служачых соўгасаў і ўстанавіць, якія з гэтых гаспадарак, знаходзячыхся як на тэрыторыі сельсоветаў, так і на землях соўгасаў, падлягаюць абкладанню сельгаспадаткам.

Прыцягнутыя к абкладанню сельгаспадаткам гаспадаркі рабочых і служачых соўгасаў павінны быць з кнігі № 3-а перанесены, таксама як і астатнія абкладаемыя гаспадаркі рабочых і служачых, у кнігі ф. № 2 (пры абкладанні па стаўках калгаснікаў) або ў кнігі ф. № 3 (пры абкладанні па стаўках аднаасобнікаў).

Складанне па гэтых гаспадарках дапаможных спісаў для налічэння сельгаспадатку (ф. № 4-в і 4-г) робіцца ў тым-жа парадку, які паказан у адносінах астатніх абкладаемых гаспадарак, падлягаючых пераносу з кніг ф. № 3-а. Пры гэтым на рабочых і служачых, якія пражываюць на землях соўгасаў, дапаможныя спісы па сельгаспадатку складаюцца толькі па гаспадарках, прыцягваемых да абкладання сельгаспадаткам.

Для праверкі паўнаты ўчота гаспадарак рабочых і служачых, пражываючых на тэрыторыі соўгасаў, неабходна

сапастаўляць раней складзеныя спісы ф. № 4-б (па ўчоту насельніцтва і жывёлы) з дапаможнымі спісамі па сельгаспадатку.

Паколькі, аднак, усе рабочыя і служачыя, раней запісаныя ў кнігу № 3-а, былі запісаны ў спісы 4-б, як рабочыя і служачыя, неабходна да зверкі зрабіць у спісу 4-б адпаведныя адзнакі. Гэтыя адзнакі павінны заключацца ў тым, каб па тых гаспадарках рабочых і служачых, якія прыцягнуты да сельгаспадатку, рабіць на палях спіса ф. № 4-б адзнаку: „Абкладаецца сельгаспадаткам, запісана ў кнігу ф. №—(2 або 3)“.

Пры наяўнасці гэткіх адзнак магчым узаемны кантроль шляхам сапастаўлення спісаў № 4-б з спісамі 4-в і 4-г як у цэлым, так і па асобных соцыяльных групах.

Райфа і райінспектуры Наргасучота правесці інструктаж работнікаў сельсоветаў у адпаведнасці з данымі ўказаннямі і прасачыць за правільным запісам у пагаспадарчыя кнігі адпаведных груп рабочых і служачых і правільным складаннем дапаможных спісаў па налічэнню падатку.

Нам. нач. Кіраўніцтва Наргасучота
БССР Шындлер.

Нач. Кіраўніцтва масавых плацяжоў
НКФ БССР Эйдлін.

2 жніўня 1936 г.

## Раённым інспектарам Наргасучота.

У мэтах праверкі выканання пастаноў СНК СССР ад 15/I 1934 г. і 11/IX 1935 г. аб арганізацыі ўчота ў калгасах і ўлічваючы ўсю важнасць правільнай пастаноўкі ўчота ў справе умацавання калгасаў, Кіраўніцтва Наргасучота прапануе Вам правесці па дасылаемай прыкладнай праграме праз участковых інспектароў праверку становішча ўчота ў калгасах, асабліва высветліўшы, як праведзена работа па пераводу калгасаў на падвойную сістэму.

Работа павінна быць праведзена на працягу жніўня і верасня месяцаў. Матэрыялы дасылаюцца ўчотнай інспекцыі КНГУ па меры праверкі кожнага калгаса.

Праверка вытвараецца непасрэдна ўчастковым інспектарам у самім калгасе. Запатрабаванне ад калгаса запаўнення якіх-небудзь звестак па гэтаму пытанню катэгарычна забараняецца.

Нам. Начальніка Кіраўніцтва Наргасучота БССР Шындлер

Начальнік учотнай інспекцыі Магідаў

13 жніўня 1936 г.

## Прыкладная праграма праверкі становішча ўчота ў калгасе

1. Раён . . . . . . . с/с . . . . . . . . калгас . . . .
2. Па якой сістэме вядзецца рахункаводства (па простай, падвойнай).
3. Калі рахункаводства вядзецца па падвойнай сістэме, то з якога часу . . . . . . . . . . . . .
4. Ці складаюцца штомесячна або пакварта\льна абаротныя ведамасці па журналу-галоўнай кнізе і дапаможных кнігах.
5. Па якое число запісаны дакументы ў кнігі.
6. Ці складзены ў калгасе прыбыткова-выдатковы грашовы каштарыс, а таксама квартальная справаздача аб выкананні каштарыса за 1 і 2 квартал 1836 г.
7. Ці забяспечан калгас кваліфікаваным рахункаводам.
8. Ці вытвараецца ў калгасе інструктаж па ўчоту з боку Райза або МТС.
9. Ці забяспечан калгас кнігамі і бланкамі для вядзення ўчота.

# УСЕСАЮЗНЫ ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА 1937 ГОДА

# ПАСТАНОВА № 1326

## Совета Народных Камісараў Саюза ССР

### Масква—Крэмль

*22 ліпеня 1936 года*

### Аб арганізацыйных мерапрыемствах па правядзенню ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 года

У дадатак да пастаноў СНК Саюза ССР ад 28 і 29 красавіка 1936 года аб усесаюзным перапісу насельніцтва, Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляе:

1. Ускласці перапіс хворых у больніцах і клініках, адпачываючых у санаторыях і дамах адпачынку, дзяцей, якія знаходзяцца ў дамах маці і дзіцяці, у дамах младзенца, у яслях санаторнага тыпу, выхаванцаў дзіцячых дамоў, а таксама інвалідаў, якія знаходзяцца ў дамах інвалідаў, на адміністрацыю адпаведных устаноў па інструкцыі ЦКНГУ Дзяржплана СССР.

Абавязаць народныя камісарыяты аховы здароўя саюзных рэспублік, Трансанупр НКШЗ, Выканком таварыства Чырвонага Крыжу і Чырвонага Поўмесяца, ВЦСПС, народныя камісарыяты асветы саюзных рэспублік, народныя камісарыяты соцыяльнага забеспячэння саюзных рэспублік і іншыя ведамствы і арганізацыі, маючыя ў сваім веданні ўстановы паказанага тыпу, у месячны тэрмін выдаць па ўзгадненню з ЦКНГУ Дзяржплана СССР неабходныя распараджэнні аб парадку правядзення перапісу ў пералічаных вышэй установах.

2. Даручыць Народнаму Камісарыяту па замежных справах прыняць неабходныя меры для бесперашкоднага пропуску шчотчыкаў у памяшканні пасольстваў, консульстваў і да т. п. для перапісу пражываючага ў іх насельніцтва.

Абавязаць ЦКНГУ Дзяржплана СССР персанальны спіс шчотчыкаў, накіроўваемых у памяшканні пасольстваў і консульстваў, узгадніць з Народным Камісарыятам па замежных справах.

3. Абавязаць НКШЗ і НКСувязі ўтвараць тэрміновую і бесперабойную дастаўку грузаў і паштовых адпраўленняў, звязаных з перапісам насельніцтва, у прыватнасці, прымаць да адпраўкі пасажырскім багажом і поштай грузы, звязаныя з перапісам насельніцтва, без абмежавання размера.

4. Абавязаць СНК саюзных і аўтаномных рэспублік, краявыя, абласныя і раённыя выканаўчыя камітэты, гарадскія і сельскія советы забяспечыць работнікаў па перапісу насельніцтва неабходнымі памяшканнямі для інструктавання і прыёмкі матэрыялаў перапісу, а таксама сродкамі перасоўвання, выкарыстоўваючы, у выпадку патрэбы, транспарт устаноў, прадпрыемстваў, калгасаў і да т. п.

Нам. Старшыні Совета Народных Камісараў
Саюза ССР В. Чубар

Кіраўнік Справамі Совета Народных Камісараў
Саюза ССР І. Мірошнікаў

## ЗАГАД № 246

## Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота Дзяржплана СССР

*ад 11 ліпеня 1936 г.*

У сувязі з тым, што перапіс жывёлы на 1 студзеня 1937 г. будзе праводзіцца адначасова з усесаюзным перапісам насельніцтва, загадваю:

1. Устанавіць, што перапіс жывёлы праводзіцца сумесна з перапісам насельніцтва, як адна статыстычная аперацыя на аснове адзінага оргплана. Кіраўніцтва падрыхтоўкай і правядзеннем перапісу ажыццяўляецца Бюро перапісу насельніцтва.

2. У складзе Бюро ўсесаюзнага перапісу насельніцтва стварыць групу па перапісу жывёлы на перыяд падрыхтоўкі і правядзення перапісу жывёлы.

3. Перавесці ў склад паказанай групы па перапісу жывёлы на перыяд падрыхтоўкі і правядзення перапіснай аперацыі ст. кансультанта Бюро перапісу жывёлы тав. Шмемана Н. Н., эканаміста тав. Ражнова С. М. і сакратара тав. Голубеву М. В.

4. Ускласці на намесніка начальніка Ўсесаюзнага бюро перапісу жывёлы тав. Гурэвіча. С. М. кіраўніцтва паказанай вышэй групай у складзе Бюро перапісу насельніцтва, прадаставіўшы тав. Гурэвічу С. М. па пытаннях перапісу жывёлы на 1 студзеня 1937 г. правы нам. начальніка Бюро ўсесаюзнага перапісу насельніцтва.

5. У рэспубліках, краях (абласцях) і аўтаномных рэспубліках перадаць са складу супрацоўнікаў сельскагаспадарчых сектараў некалькі работнікаў у колькасці, неабходнай для падрыхтоўкі і правядзення перапісу жывёлы, у склад мясцовых бюро перапісу насельніцтва.

6. Абавязаць Бюро перапісу насельніцтва праграму і план перапісу ў частцы, якая датычыць жывёлы, распрацоўваць па ўзгадненню з Аддзелам учоту сельскай гаспадаркі.

7. Распрацоўку рэзультатаў перапісаў рабіць паасобна, у сувязі з чым, з моманту пачатку прыёмкі папярэдніх ітогаў перапісу жывёлы ў абласцях, перавесці назад у сектары сельскай гаспадаркі ўсіх работнікаў, якія даным загадам пераводзяцца з гэтых сектароў у Бюро перапісу насельніцтва.

8. Увесці ў склад перапісной камісіі пры начальніку ЦКНГУ Дзяржплана СССР тт. Балашова І. Н., Масквіціна А. Ф., Гурэвіча С. М.

Начальнік Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-
Гаспадарчага Учоту Дзяржплана СССР Краваль

## З інструкцыі па арганізацыі падрыхтоўкі і правядзення ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 года і ўсесаюзнага перапісу жывёлы на 1/I 1937 г.

### I. Агульныя палажэнні

1. Усесаюзны перапіс насельніцтва праводзіцца 6 студзеня 1937 г.

2. Перапіс насельніцтва праводзіцца адначасова па ўсёй тэрыторыі СССР і ахапляе ўсіх як совецкіх грамадзян, так і замежных падданых, якія знаходзяцца на гэтай тэрыторыі.

3. Насельніцтва перапісваецца па месцы жыхарства, а не работы.

У кожным населеным пункце перапісваецца ўсё наяўнае насельніцтва, якое знаходзіцца ў ім у дзень перапісу 6 студзеня 1937 года.

Увага: Насельніцтва, якое знаходзіцца ў дзень перапісу—6 студзеня 1937 года ў дарозе—у паяздах чыгунак і на параходах, перапісваецца ў асобным парадку, устаноўленым Советам Народных Камісараў СССР.

4. Адначасова з усесаюзным перапісам насельніцтва ў перыяд з 1 студзеня па 15 студзеня 1937 года, у мэтах праверкі выканання дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі і атрымання дакладных даных аб колькасці жывёлы ў Саюзе ССР, праводзіцца ўсесаюзны перапіс жывёлы на ўсёй тэрыторыі Саюза ССР, за выключэннем раёнаў Крайняй Поўначы.

5. Усесаюзны перапіс жывёлы праводзіцца ва ўсіх дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва.

Увага: 1. Не подлягаюць перапісу коні, належачыя вайсковым часцям, штабам і ўстановам РСЧА, войскам і ўстановам пагранаховы, коннай варце і органам міліцыі.

2. Жывёла, належачая с.-г. прадпрыемствам, часцям Чырвонай арміі і НКВД, уключаючы ГУЛАГ, Галоўнае ўпраўленне міліцыі, а таксама жывёла спецперасяленцаў, улічваецца ў асобным парадку.

3. Жывёла, якая знаходзіцца ў дарозе, падлягае ўліку. Для гэтай мэтай на станцыях прыбыцця жывёлы ўлічваецца ўся жывёла, прыбыўшая 1—10 студзеня. З гэтай колькасці выключаецца жывёла, пагружаная або адпраўленая пасля 1 студзеня. Жывёла, якая знаходзіцца ў перагоне, рэгіструецца па месцы адпраўлення, прычым улічваецца жывёла, адпраўленая на працягу снежня месяца, калі не атрымана паведамлення аб яе прыбыцці да месца назначэння.

6. Крытычнай датай, на якую перапісваецца пагалоўе жывёлы, з'яўляецца 1 студзеня 1937 года.

7. Уносіць якія-б там ні было змены або дадаткі ў фармуляры перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы або ўводзіць новыя фармуляры—мясцовым органам забараняецца.

8. Непасрэдна кіруе перапісам насельніцтва і перапісам жывёлы па Саюзу ССР начальнік ЦКНГУ Дзяржплана СССР.

Адказнасць за правядзенне абодвух перапісаў у межах саюзных і аўтаномных рэспублік, краёў і абласцей ускладаецца на начальнікаў кіраўніцтваў Наргасучота адпаведных рэспублік, краёў і абласцей.

Непасрэднае кіраўніцтва шчотчыкамі, кантралёрамі-інструктарамі, а таксама рэгістратарамі жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах ускладаецца на ўчастковых упаўнаважаных па перапісу, кіруючых перапіснымі аддзеламі.

Усе участковыя упаўнаважаныя па перапісу падпарадкоўваюцца непасрэдна раённаму інспектару Наргасучота.

9. Для правядзення перапісу насельніцтва ў складзе ЦКНГУ Дзяржплана Саюза ССР, КНГУ саюзных і аўтаномных рэспублік, краявых (абласных), а таксама КНГУ і інспектур буйных гарадоў,—арганізуецца Бюро перапісу насельніцтва, на якое адначасова ўскладаецца правядзенне перапісу жывёлы.

## II. Агульны парадак правядзення перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы

10. Перапіс насельніцтва і перапіс жывёлы праводзяцца ў наступным парадку.

а) З 1 па 5 студзеня 1937 года папярэдне запаўняюцца перапісныя лісты па перапісу насельніцтва.

Увага: У месцах з асабліва цякучым насельніцтвам папярэдняе запаўненне перапісных лістоў па перапісу насельніцтва можа праводзіцца ў больш кароткія тэрміны.

У труднадаступных месцах, а таксама ў памяшканнях, дзе хутка змяняецца насельніцтва (гасцініцы і г. д.), перапіс насельніцтва праводзіцца на працягу аднаго дня 6 студзеня 1937 г. без папярэдняга запаўнення перапісных лістоў.

У гэтыя-ж тэрміны спецыяльнымі рэгістратарамі праводзіцца перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах.

Перапіс жывёлы праводзіцца шляхам абавязковага пераліку жывёлы ў натуры і праверкі даных перапісу па інвентарных кнігах.

Увага: 1. У дзяржаўных і кааперацыйных гаспадарках—адміністрацыя гаспадаркі, а ў калгасах—праўленне калгаса загадзя (да 1 студзеня 1937 года) атрымлівае ад раённага інспектара Наргасучота фармуляры па перапісу жывёлы, запаўняе іх у адным экземпляры і прад'яўляе рэгістратару, праводзячаму перапіс.

2. У буйных жывёлагадоўчых гаспадарках пералік жывёлы ў натуры праводзіцца пры дапамозе спецыяльных брыгад садзейнічання з прадстаўнікоў партыйных, прафесіянальных, комсамольскіх арганізацый, рабочага або калгаснага актыва.

б) 6 студзеня 1937 год з 8 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы праводзіцца самы перапіс насельніцтва, г. зн. падлік насельніцтва, праверка і збор папярэдне запоўненых перапісных лістоў, а таксама запаўненне перапісных лістоў на тых асоб, на якіх яны чаму-небудзь не былі папярэдне запоўнены.

в) З 7 па 11 студзеня 1937 года праводзяцца праверка правільнасці падліку насельніцтва і запаўнення перапісных лістоў, а таксама перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва.

г) У сельскіх мясцовасцях праводзяцца кантрольныя абходы па перапісу жывёлы. Абходы пачынаюцца зараз-жа па заканчэнню перапісу жывёлы ў пунктах кантрольных абходаў. Тэрмін заканчэння кантрольных абходаў—15 студзеня 1937 года.

Увага: У гарадскіх паселішчах кантрольныя абходы па перапісу жывёлы не праводзяцца.

11. Папярэдняе запаўненне перапісных лістоў і самы перапіс насельніцтва праводзяцца спецыяльна падрыхтаванымі шчотчыкамі.

Праверка правільнасці падліку насельніцтва робіцца на месцы спецыяльна падрыхтаванымі кантралёрамі-інструктарамі шляхам абходу разам са шчотчыкамі жыллёвых памяшканняў на адведзеным шчотчыку ўчастку. Адначасова кантралёр-інструктар праводзіць і перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва. Перапіс жывёлы праводзіцца шляхам абавязковага пераліку жывёлы ў натуры. У сельскіх мясцовасцях у праверцы правільнасці падліку насельніцтва і ў перапісу жывёлы абавязкова ўдзельнічае ўпаўнаважаны сельсовета.

Кантрольныя абходы па перапісу жывёлы праводзяцца спецыяльнымі брыгадамі на чале з упаўнаважанымі РВК. У сувязі з загружанасцю ўчастковых інспектароў работамі па перапісу насельніцтва забараняецца адцягненне ўчастковых інспектароў на правядзенне кантрольных абходаў.

Увага: Пры перапісу жывёлы ў пагаспадарчыя спісы ў сельскіх мясцовасцях запісваюцца ўсе гаспадаркі як маючыя жывёлу, так і не маючыя яе, а ў гарадах—толькі гаспадаркі, маючыя жывёлу.

12. Пры правядзенні перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы прымяняецца адзіны пералік гарадоў і горпаселішчаў, прыняты для перапісу насельніцтва.

Увага: Аднясенне населеных пунктаў да гарадскіх або сельскіх мясцовасцей пры распрацоўцы матэрыялаў перапісу жывёлы робіцца на аснове асобных указанняў ЦКНГУ.

## III. Падрыхтоўчыя работы.

Падрыхтоўчыя работы складаюцца з наступных асноўных аперацый:

### А. Па перапісу насельніцтва.

13. Складаюцца наступныя спісы, неабходныя для падрыхтоўкі і правядзення перапісу:

а) населеных месц з падзелам іх на гарадскія і сельскія;

б) дваровых (па міліцэйскай нумарацыі) участкаў з указаннем на кожнаму з іх: установы (арганізацыі, прадпрыемства) або прыватнай асобы, якой яны належаць або ў веданні якой знаходзяцца, колькасці насельніцтва, пражываючага на ўчастку, і адрасу ўчастка; спісы гэтыя складаюцца толькі ў гарадскіх паселішчах шляхам спецыяльнага абходу ўсіх дваровых ўчасткаў; работа выконваецца пад кіраўніцтвам гарадскіх і раённых інспектароў Наргасучота, у буйных гарадах—адпаведнымі бюро перапісу.

14. Падрыхтоўваецца неабходны для правядзення перапісу картаграфічны матэрыял; падрыхтоўка заключаецца:

а) у выкапіроўцы і складанні схематычных раённых карт для раёнаў, не маючых такавых; работа выконваецца раённымі інспектарамі;

б) у праверцы існуючых планаў горпаселішчаў і папаўненні іх шляхам нанясення новых кварталаў, а таксама складання схематычных планаў для тых горпаселішчаў, якія не маюць інструментальных планаў; работа выконваецца раённымі і гарадскімі інспектарамі Наргасучота, а ў буйных гарадах—адпаведнымі бюро перапісу.

16. Узгадняецца з ведамствамі і ўстановамі канкрэтны план правядзення перапісу ў рознага роду агульных памяш-

каннях, больніцах і г. д. і складаюцца спісы даных аб'ектаў перапісу; узгадненне робіцца краявымі (абласнымі) бюро перапісу, раённымі і гарадскімі інспектарамі па дырэктывах ЦКНГУ Дзяржплана СССР.

17. Апрача пералічаных вышэй падрыхтоўчых работ, для патрэб шыфроўкі матэрыялаў перапісу складаюцца спісы:

а) усіх дзяржаўных і грамадскіх устаноў і арганізацый;

б) усіх прамысловых, транспартных, будаўнічых і інш. прадпрыемстваў і ўстаноў, незалежна ад размеру іх прыналежнасці;

в) усіх калгасаў, соўгасаў, машына-трактарных станцый і г. д.

Пералічаныя спісы складаюцца як па гарадскіх паселішчах, так і па сельскіх мясцовасцях. Складанне спісаў ускладаецца на бюро перапісу, а таксама гарадскіх, раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота.

## Б. Па перапісу жывёлы.

18. Праводзяцца работы па вычарпальнаму выяўленню аб'ектаў перапісу:

а) складаюцца спісы калгасаў, соўгасаў, гаспадарак ОРС'аў і ўсіх іншых гаспадарак дзяржаўных, кааперацыйных і грамадскіх устаноў і арганізацый;

б) ад райза атрымліваюцца спісы зарэгістраваных ім таварных ферм і потым праводзіцца ўдакладненне гэтых спісаў да пачатку перапісу.

19. Збіраюцца і прыводзяцца ў парадак наступныя кантрольныя дапаможныя матэрыялы:

а) раённыя і сельсовецкія ітогі перапісу жывёлы на 1 студзеня 1936 года ў межах раёнаў і сельсоветаў на 1 верасня 1936 года;

б) раённыя і сельсовецкія ітогі сельгаспадатковага ўчоту на чэрвень 1936 года ў межах раёнаў і сельсоветаў на 1 верасня 1936 года;

в) ітогі ўчота прыватнаўласніцкай жывёлы ў гарадах на студзень і чэрвень 1936 года і спісы ўласнікаў жывёлы па чэрвеньскаму ўчоту 1936 года;

г) даныя аперацыйнай справаздачнасці па кожнай калгаснай таварнай ферме на 1 снежня 1936 года;

д) даныя аб здачы жывёлы ў парадку мясапаставак у лік плана 1936 г. і авансавых мясапаставак у лік плана 1937 г;

е) даныя ветэрынарнага нагляду і дзяржстраха аб падзяжу жывёлы за 1936 г.;

ж) даныя аперацыйнай справаздачнасці аб злучной кампаніі;

з) даныя аперацыйнай справаздачнасці аб скурзагатоўках;

і) даныя аперацыйнай справаздачнасці аб прадажы і кантрактацыі жывёлы.

21. Спісы населеных пунктаў і схематычныя карты раёнаў, неабходныя для поўнага ахопу тэрыторыі і правільнай арганізацыі перапіснога апарата, выкарыстоўваюцца тыя-ж, што і пры перапісу насельніцтва.

### В. Агульныя мерапрыемствы па перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы.

22. Праводзіцца разбіўка сельскіх мясцовасцей і гарадскіх паселішчаў на перапісныя аддзелы, інструктарскія і шчотныя ўчасткі (гл. раздзел IV).

23. Праводзіцца мабілізацыя персанала для правядзення перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы.

24. Для растлумачэння насельніцтву задач, значэння, праграмы і парадку правядзення перапісаў праводзіцца шырокая масавая растлумачальная кампанія.

## IV. Устанаўленне перапісных аддзелаў, інструктарскіх і шчотных участкаў.

25. ЦКНГУ Дзяржплана СССР устанаўляе і паведамляе месцам нормы выпрацоўкі шчотчыкаў і правілы ўстанаўлення інструктарскіх участкаў і перапісных аддзелаў для гарадскіх паселішчаў і сельскіх мясцовасцей кожнай рэспублікі, края, вобласці.

У далейшым ЦКНГУ зацвярджае для кожнай рэспублікі, края, вобласці, колькасць перапісных аддзелаў, інструктарскіх і шчотных участкаў.

26. КНГУ саюзных рэспублік, не маючых абласнога падзелу, а таксама КНГУ краёў і абласцей і аўтаномных рэспублік, выходзячы з колькасці перапісных аддзелаў, інструктарскіх і шчотных участкаў, устаноўленай ЦКНГУ,— вызначаюць колькасць іх па раёнах і горпаселішчах і паведамляюць бюро перапісу буйных гарадоў, гарадскім і раённым інспектарам Наргасучота.

27. Бюро перапісу буйных гарадоў, гарадскія і раённыя інспектары разбіваюць тэрыторыю сваіх гарадоў, раёнаў на перапісныя аддзелы і інструктарскія ўчасткі з дакладным вызначэннем тэрыторыі перапісных аддзелаў і інструктарскіх участкаў і ўстанаўляюць па кожнаму перапісному аддзелу і па кожнаму інструктарскаму ўчастку колькасць шчотных участкаў.

Разбіўка сельскіх мясцовасцей на перапісныя аддзелы і інструктарскія ўчасткі зацвярджаецца краявымі (абласнымі) КНГУ.

Па гарадах зацверджанню краявых (абласных) КНГУ падлягае толькі разбіўка на перапісныя аддзелы.

28. Пры разбіўцы тэрыторыі на перапісныя аддзелы і інструктарскія ўчасткі, трэба кіравацца наступнымі прынцыпамі:

а) Перапісны аддзел у сельскіх мясцовасцях павінен, як правіла, супадаць з участкам штатнага ўчастковага інспектара Наргасучота. Толькі ў асобных выпадках, калі па насельніцтву або тэрыторыі інспектарскі ўчастак вельмі вялікі, або калі перапіс на ім ускладняецца якімі-небудзь асаблівымі акалічнасцямі,—ён можа быць разбіты на два і больш перапісных аддзелаў.

У гарадскіх паселішчах перапісны аддзел павінен ахапляць ад 10 да 25 тыс. чалавек насельніцтва.

б) Інструктарскі ўчастак у сельскіх мясцовасцях павінен, як правіла, складацца з аднаго цэлага сельсовета, але ахапляць не звыш 1500 чал. насельніцтва. Больш буйныя сельсоветы разбіваюцца на два і больш інструктарскіх участкі. Не дазваляецца ўключаць у інструктарскі ўчастак часткі некалькіх сельсоветаў.

У гарадскіх паселішчах інструктарскі ўчастак павінен ахапляць 1000—1200 чал. насельніцтва.

29. Гарадскія паселішчы з насельніцтвам да 2000 чал. вылучаюцца кожнае ў асобны інструктарскі ўчастак.

Гарадскія паселішчы ад 2000 да 20000 жыхароў вылучаюцца кожнае ў самастойны перапісны аддзел з далейшым падзелам на інструктарскія ўчасткі.

У гарадах ад 20000 і звыш прызначаюцца гарадскія ўпаўнаважаныя, кіруючыя работай перапісных аддзелаў, на якія разбіваецца горад.

Пры гэтым у гарадах з насельніцтвам ад 20 да 50 тыс. жыхароў упаўнаважанаму даецца памочнік; у гарадах звыш 50 тыс. упаўнаважаным арганізуецца бюро перапісу насельніцтва.

30. Выходзячы з зацверджанай Советам Народных Камісараў СССР сярэдняй нормы на шчотчыка па СССР у 150 чалавек, ЦКНГУ Дзяржплана СССР устанаўляе дыферэнцыяваныя нормы для гарадскіх паселішчаў і сельскіх мясцовасцей з улікам асаблівасцей кожнай рэспублікі, края, вобласці.

31. Устанаўленне тэрыторыі шчотных участкаў і адмежавання кожнага шчотнага ўчастка ад сумежных участкаў робіцца кантралёрамі-інструктарамі.

У гарадскіх паселішчах кантралёр-інструктар абавязан дакладна паказаць шчотчыку межы яго ўчастка шляхам абходу іх сумесна са шчотчыкам.

У сельскіх мясцовасцях інструктар абавязан паказаць шчотчыку межы яго ўчастка на месцы ў тым выпадку, калі

шчотны ўчастак складаецца не з цэлых населеных пунктаў, а з часткі аднаго паселішча.

32. Перапіс жывёлы арганізуецца ў межах перапісных аддзелаў і інструктарскіх участкаў, установленых для перапісу насельніцтва.

33. Загадзя павінны быць вылучаны ў гарадскіх паселішчах і ў сельскіх мясцовасцях памяшканні, прызначаныя для перапісных аддзелаў і інструктарскіх участкаў, у якіх будзе адбывацца інструктаванне шчотчыкаў кантралёраў-інструктароў, а таксама рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, тут-жа робіцца і раздача фармуляраў, прыёмка і часовае хаванне матэрыялаў перапісаў; гэта-ж памяшканне павінна служыць і месцам сталага знаходжання кіраўніка аддзела і яго памочніка ў часе перапісу.

## V. Апарат перапісу і яго абавязкі.

34. Апарат па правядзенню перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы складаецца з:

а) упаўнаважаных па перапісах у саюзных рэспубліках, краях (абласцях), аўтаномных рэспубліках і абласцях; упаўнаважанымі з'яўляюцца начальнікі адпаведных КНГУ;

б) упаўнаважаных па перапісах у раёнах;

в) упаўнаважаных па перапісах у гарадах з насельніцтвам больш 20 тыс. чалавек;

г) участковых упаўнаважаных па перапісах (кіраўнікоў перапісных аддзелаў);

д) кантралёраў-інструктароў;

е) шчотчыкаў;

ж) рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах;

з) брыгадзіраў, праводзячых кантрольныя абходы.

35. Пры ўпаўнаважаных па перапісах у саюзных рэспубліках, краях (абласцях), аўтаномных рэспубліках і абласцях і гарадах з насельніцтвам звыш 50 тыс. чалавек арганізуюцца бюро перапісу насельніцтва. Начальнікі бюро з'яўляюцца памочнікамі ўпаўнаважаных па арганізацыі ўсіх работ па абодвух перапісах.

Раённым і ўчастковым упаўнаважаным, а таксама ўпаўнаважаным у гарадах з насельніцтвам ад 20 да 50 тыс. жыхароў, даюцца памочнікі: раённым упаўнаважаным—2 памочнікі, упаўнаважаным у гарадах і ўчастковым упаўнаважаным—адзін памочнік.

36. Кіраўніцтва раённымі ўпаўнаважанымі ў аўтаномных рэспубліках і абласцях, уваходзячых у склад краёў, а так-

сама ў акругах ускладаецца на начальнікаў адпаведных КНГУ, якія з'яўляюцца ўпаўнаважанымі па перапісах.

Для кіраўніцтва работай раённых упаўнаважаных у астатніх раёнах краёў (абласцей), упаўнаважаныя па перапісах у рэспубліках, краях (абласцях) прыцягваюць кваліфікаваных і праверaных асоб са складу кіруючых работнікаў КНГУ і іншых устаноў і арганізацый.

37. Кіраўнікі перапісу ў гарадах з насельніцтвам ад 20 да 50 тыс. жыхароў, не маючых горінспектароў Наргасучота, падпарадкоўваюцца раённым упаўнаважаным тых раёнаў, у склад якіх уваходзяць гэтыя гарады.

38. Участковымі ўпаўнаважанымі па перапісах (кіраўнікамі перапісных аддзелаў) у сельскіх мясцовасцях, *як правіла,* павінны з'яўляцца ўчастковыя інспектары Наргасучота. Кожнаму ўчастковаму ўпаўнаважанаму ў сельскіх мясцовасцях даецца спецыяльна запрошаны памочнік. У тых выпадках, калі ўчастковыя інспектары Наргасучота акажуцца недастаткова кваліфікаванымі для кіраўніцтва перапісным аддзелам,—участковым упаўнаважаным можа быць прызначана спецыяльна запрошаная асоба, а ўчастковы інспектар—яе памочнікам.

У гарадах участковыя ўпаўнаважаныя (кіраўнікі перапісных аддзелаў) прызначаюцца з ліку спецыяльна запрошаных асоб.

Участковыя ўпаўнаважаныя па перапісу зацвярджаюцца СНК саюзных і аўтаномных рэспублік, не маючых абласнога падзелу, краявымі (абласнымі) выканаўчымі камітэтамі па прадстаўленню начальнікаў адпаведных КНГУ.

39. Кантралёры-інструктары і шчотчыкі зацвярджаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі або гарадскімі советамі па прадстаўленню гарадскіх або раённых інспектароў Наргасучота.

41. Раённыя і гарадскія ўпаўнаважаныя:

а) кіруюць правядзеннем перапісу ў раёне або ў горадзе;

б) праводзяць кампанію па падрыхтоўцы насельніцтва да перапісаў;

в) праводзяць разбіўку тэрыторыі раёна на перапісныя аддзелы і інструктарскія ўчасткі, дакладна вызначаючы межы кожнага аддзела і ўчастка, і ўстанаўляюць колькасць шчотных участкаў па кожнаму аддзелу і інструктарскаму ўчастку;

г) праводзяць падбор: 1) кантралёраў-інструктароў і шчотчыкаў і прадстаўляюць іх на зацверджанне раённых выканаўчых камітэтаў і гарадскіх советаў; 2) памочнікаў участковых упаўнаважаных; 3) рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах; 4) брыгадзіраў па кантрольных абходах для паследуючага іх зацверджання РВК;

д) непасрэдна інструктуюць участковых упаўнаважаных па перапісах і іх памочнікаў, старанна правяраючы веданне імі інструкцыі і падрыхтаванасць іх да перапісаў, а таксама кантралююць іх работу;

е) прадстаўляюць па падведамственай ім тэрыторыі краявым (абласным) кіраўніцтвам Наргасучота папярэднія ітогі колькасці насельніцтва, а таксама ітогі колькасці пагалоўя жывёлы і ўсе матэрыялы перапісаў і адказваюць за іх якасць.

42. Участковыя ўпаўнаважаныя (кіраўнікі перапісных аддзелаў) і іх памочнікі;

а) інструктуюць кантралёраў-інструктароў, шчотчыкаў, а таксама рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, і правяраюць усваенне імі інструкцый;

б) забяспечваюць кантралёраў-інструктароў, а таксама рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах фармулярамі перапісаў, усімі дапаможнікамі да іх і неабходнымі канцылярскімі прыладамі;

в) непасрэдна кіруюць работай кантралёраў-інструктароў, шчотчыкаў, а таксама рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах.

г) прымаюць ад кантралёраў-інструктароў, а таксама ад рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, запоўненыя бланкі па абодвух перапісах і правяраюць паўнату і якасць іх запаўнення;

д) зводзяць па свайму аддзелу даныя аб колькасці насельніцтва па ўстаноўленай форме папярэдніх ітогаў і рэзультаты зводкі прадстаўляюць раённаму або гарадскому ўпаўнаважанаму;

е) складаюць па перапісу жывёлы сельсовецкую зводку;

ж) здаюць матэрыялы абодвух перапісаў па опісу, разам са сваёй справаздачай, раённаму або гарадскому ўпаўнаважанаму;

з) памочнікі ўчастковых упаўнаважаных удзельнічаюць у інструктажы і кантролі работы інструктароў, шчотчыкаў, а таксама рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, і выконваюць асобныя заданні ўчастковага ўпаўнаважанага.

У сельскіх мясцовасцях памочнік участковага ўпаўнаважанага знаходзіцца ўвесь час перапісу ў пэўным месцы, а ўпаўнаважаны правярае ход работы, наведваючы інструктарскія і шчотныя ўчасткі.

43. Кантралёр-інструктар нясе наступныя абавязкі:

а) разбівае свой участак на шчотныя ўчасткі, дакладна ўстанаўляе іх межы (з абавязковым зацверджаннем участковага ўпаўнаважанага);

б) размяркоўвае шчотчыкаў па ўчастках і, у выпадках, указаных у п. 31 раздзела IV, паказвае шчотчыку межы яго ўчастка ў натуры;

в) у часе папярэдняга запаўнення бланкаў па перапісу насельніцтва правярае работу сваіх шчотчыкаў, выпраўляе выяўленыя няправільнасці і дадаткова інструктуе шчотчыкаў;

г) пасля перапісу праводзіць суцэльны кантроль правільнасці падліку насельніцтва;

д) складае зводныя ведамасці па інструктарскаму ўчастку і паведамляе ўчастковаму ўпаўнаважанаму папярэднія ітогі перапісу насельніцтва па ўстаноўленай форме;

е) правярае і выпраўляе спісы населеных месц;

ж) здае матэрыял перапісу насельніцтва па опісу ўчастковаму ўпаўнаважанаму;

з) адначасова з правядзеннем кантроля па перапісу насельніцтва (гл. п. 10) праводзіць па свайму ўчастку ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва таксама перапіс жывёлы з абавязковым пералікам жывёлы ў натуры;

і) пасля перапісу жывёлы на фармулярах перапісу падлічвае па старонках ітогі, ітогі па населеных пунктах і ўчастку ў цэлым і здае ўсе матэрыялы ўчастковаму ўпаўнаважанаму;

к) пасля здачы матэрыялаў перапісаў участковаму ўпаўнаважанаму, па ўказанню апошняга, прымае ўдзел у праверцы матэрыялаў па перапісу жывёлы па другіх участках і ў складанні сельсовецкіх зводак.

44. Шчотчык выконвае наступныя работы:

а) запаўняе перапісныя лісты на ўсё наяўнае насельніцтва свайго ўчастка;

б) праводзіць самы перапіс насельніцтва, г. зн. падлік насельніцтва;

в) у гарадскіх паселішчах складае дапаможны бланк „дамовы спіс“, у сельскіх мясцовасцях складае дапаможны бланк „паселішчны спіс“;

г) запаўняе зводныя ведамасці па шчотнаму ўчастку, робіць па іх падлік насельніцтва і рэзультаты падліку здае кантралёру-інструктару;

д) прыводзіць у парадак увесь сабраны матэрыял і здае яго кантралёру-інструктару пры опісу па ўстаноўленай форме.

Увага: У рабоце па перапісу жывёлы шчотчык не ўдзельнічае

45. Рэгістратар, які праводзіць перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, абавязан, шляхам асабістага наведвання кожнай даручанай яму па перапісу гаспадаркі, праверыць правільнасць запаўнення фармуляраў перапісу адміністрацыяй гаспадаркі (праўленнем калгаса), устанавіць, ці ўсе інструкцыйныя ўказанні выкананы гаспадаркай пры запаўненні бланка і пасля заканчэння перапісу ва ўсіх даручаных яму гаспадарках, здаць усе матэрыялы ўчастковаму ўпаўнаважанаму.

Праверка праводзіцца шляхам абавязковага пераліку жывёлы ў натуры і злічэння паведамляемых даных з матэрыяламі інвентарызацыі.

Увага: Пералік жывёлы ў натуры ў буйных жывёлагадоўчых гаспадарках праводзіцца пры дапамозе брыгад садзейнічання.

46. Удзельнікам правядзення ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 года і ўсесаюзнага перапісу жывёлы выдаюцца імянныя пасведчанні за подпісам старшыні раённага выканаўчага камітэта (горсовета) і ўпаўнаважанага па перапісу і нагрудныя значкі ўстаноўленага ўзору.

## VI. Парадак мабілізацыі персанала для правядзення перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы

47. „Для ўкамплектавання кадраў шчотчыкаў і кантралёраў-інструктароў Советы народных камісараў саюзных і аўтаномных рэспублік, не маючых абласнога падзелу, краявыя і абласныя выканаўчыя камітэты абавязаны, сумесна з органамі Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота прыцягнуць на ўмовах дадатковай аплаты работнікаў школ, совецкіх і гандлёвых устаноў, вучашчыхся вышэйшых навучальных устаноў і старэйшых класаў сярэдніх школ, канторскі персанал прадпрыемстваў і калгасаў і г. д. на тэрмін, неабходны для іх папярэдняй падрыхтоўкі і для правядзення самога перапісу“. (Пастанова СНК СССР ад 28/IV 1936 года).

48. „У паасобных выпадках, калі да правядзення перапісу акажацца неабходным прыцягнуць усіх або большую частку настаўнікаў, дазволіць Советам Народных Камісараў саюзных рэспублік і аўтаномных рэспублік, краявым і абласным выканаўчым камітэтам дапускаць частковае або поўнае спыненне заняткаў у пачатковых школах і ў сярэдніх навучальных установах на час перапісу на тэрмін не больш пяці дзён“ (Пастанова СНК СССР ад 29/IV 1936 года).

Устанаўляецца наступны парадак падбору і зацверджання персанала перапісу:

49. У тэрмін, устаноўлены СНК СССР, бюро перапісу буйных гарадоў, гарадскія і раённыя інспектары Наргас-

учота складаюць спісы шчотчыкаў, кантралёраў-інструктароў, прыцягваемых да перапісу, і прадстаўляюць іх на зацверджанне раённага выканаўчага камітэта або горсовета, а таксама падбіраюць памочнікаў участковых упаўнаважаных.

Спісы складаюцца з такім разлікам, каб мець ад 10 да 30 проц. запасных шчотчыкаў, у залежнасці ад мясцовых умоў і 1—2 запасных кантралёраў-інструктароў на перапісны аддзел.

50. У гэтыя-ж тэрміны падбіраюцца і кадры рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах. Спісы складаюцца з разлікам мець такі-ж рэзерв, як указана ў п. 49.

51. Раённыя інспектары падбіраюць шчотчыкаў і кантралёраў-інструктароў у сельскіх мясцовасцях, а таксама рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, праз участковую інспектуру Наргасучота пры садзейнічанні сельсоветаў.

52. На працягу кастрычніка месяца 1936 г. рэспубліканскія, краявыя (абласныя) упаўнаважаныя праводзяць зацверджанне ў СНК саюзных рэспублік, не маючых абласнога падзелу, краявых (абласных) выканаўчых камітэтах складу ўчастковых упаўнаважаных.

53. Падбору кадраў перапісу насельніцтва 1937 г. і перапісу жывёлы на 1 студзеня 1937 г. павінна ўдзяляцца асаблівая ўвага, таму раённыя і гарадскія інспектары Наргасучота абавязаны вельмі старанна правяраць прыгоднасць кажнага кандыдата, раней чым уключаць яго ў спіс.

54. Раённыя інспектары Наргасучота складаюць спісы шчотчыкаў, кантралёраў-інструктароў і рэгістратараў, праводзячых перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, у сельскіх мясцовасцях, як правіла, з ліку жыхароў таго сельсовета, на тэрыторыі якога знаходзяцца іх участкі.

55. На працягу снежня месяца раённыя інспектары намячаюць кандыдатаў брыгадзіраў кантрольных абходаў па перапісу жывёлы і прадстаўляюць іх на зацверджанне раённых выканаўчых камітэтаў.

## VII. Тэрміны прыцягнення да работы персанала перапісаў.

56. Кожнаму ўдзельніку перапісаў загадзя пасылаецца павестка (у гарадах поштай, у сельскіх мясцовасцях—праз сельсоветы) аб яго прыцягненні да работы па перапісах, а таксама з указаннем месца і часу інструктажа.

61. Шчотчыкі аслабаняюцца ад асноўнай работы:

а) на адзін дзень у перыяд паміж 29-31 снежня 1936 г. для дадатковага інструктажа і праверкі ведаў, абходу свайго ўчастка і атрымання фармуляраў перапісу і іншых матэрыялаў;

б) на адзін дзень у перыяд паміж 1—5 студзеня 1937 года, г. зн. у перыяд папярэдняга запаўнення перапісных лістоў.

За гэты перыяд (з 1 па 5 студзеня) шчотчык павінен поўнасцю закончыць папярэдняе запаўненне перапісных лістоў ва ўсіх жыллёвых памяшканнях свайго ўчастка.

в) на адзін дзень 6 студзеня 1937 года, калі шчотчык праводзіць самы перапіс;

г) на адзін дзень у перыяд паміж 7—11 студзеня 1937 г. для ўдзелу ў кантрольным абходзе і для здачы матэрыялаў кантралёру-інструктару.

62. Кантралёры-інструктары прыцягваюцца да работ па перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы адначасова са шчотчыкамі і разам з імі праходзяць паўторны інструктаж і праверку.

Кантроль правільнасці і паўнаты ўчота насельніцтва, прыём матэрыялаў ад шчотчыкаў, падлік папярэдніх ітогаў па перапісу насельніцтва і падлік па старонках ітогаў і ітогаў па населеных пунктах па перапісу жывёлы, здача ўсіх матэрыялаў участковаму ўпаўнаважанаму, заканчваюцца кантралёрамі-інструктарамі не пазней 6 дзён пасля перапісу (г. зн. 12 студзеня 1937 года).

Кантралёры-інструктары аслабаняюцца ад іх асноўнай работы з 29 снежня па дзень здачы матэрыялаў участковаму ўпаўнаважанаму, але не пазней 12 студзеня 1937 года.

63. Рэгістратары, праводзячыя перапіс жывёлы ў дзяржаўных гаспадарках, кааперацыйных гаспадарках і калгасах, праходзяць паўторны інструктаж і праверку 31 снежня 1936 года. Яны аслабаняюцца ад іх асноўнай работы з 31 снежня па дзень здачы матэрыялаў участковаму ўпаўнаважанаму, але не пазней 5 студзеня 1937 г.

64. Памочнікі ўчастковых упаўнаважаных прыцягваюцца да работ па перапісу аслабаненнем ад асноўнай работы з 29 снежня 1936 года і заканчваюць работу не пазней 14 студзеня 1937 года.

Памочнікі ўчастковых упаўнаважаных дапамагаюць упаўнаважанаму ў арганізацыі работ, у прыёмцы і кантролі матэрыялаў па перапісному аддзелу і замяняюць упаўнаважанага ў часе аб'езда аддзела апошнім.

65. Участковыя ўпаўнаважаныя ў гарадах, а таксама прыцягваемыя з боку ўчастковыя ўпаўнаважаныя ў сельскіх мясцовасцях пачынаюць работу з 25 снежня 1936 г.

Па 29 снежня яны правяраюць разбіўку аддзела на інструктарскія і шчотныя ўчасткі, падбіраюць ўсе неабходныя матэрыялы перапісаў па ўчастках. 29—31 снежня правяраюць падрыхтаванасць інструктароў-кантралёраў, шчотчыкаў і рэгістратараў і ў далейшым кіруюць іх работай да поўнага яе заканчэння.

Атрымаўшы матэрыялы ад усіх кантралёраў-інструктароў і рэгістратараў участковы ўпаўнаважаны правярае іх, складае папярэднія ітогі па перапісу насельніцтва, сельсовецкую зводку па перапісу жывёлы і справаздачу і здае іх гарадскому або раённаму ўпаўнаважанаму разам з усімі матэрыяламі перапісаў.

66. Астатнія работнікі перапісу прыцягваюцца да работы па меры патрэбы.

## VIII. Кантрольныя абходы

67. Следам за правядзеннем перапісу жывёлы ў мэтах праверкі паўнаты ўчота жывёлы калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва, у сельскіх мясцовасцях павінны быць праведзены кантрольныя абходы гаспадарак з праверкай жывёлы ў натуры. Матэрыялы кантрольных абходаў павінны паслужыць крыніцай для нанясення паправак на даныя перапісы кожнага раёна ў выпадку, калі ў ходзе перапісу быў дапушчан недаўчот жывёлы, выяўлены кантрольнымі абходамі.

68. Кантрольным абходам падлягае не менш 10 проц. гаспадарак калгаснікаў, аднаасобнікаў і іншых груп насельніцтва. Прадзелам процанта выбаркі гаспадарак для кантрольных абходаў устанаўляецца 20 проц., які дапускаецца толькі для раёнаў з невялікай колькасцю буйных населеных пунктаў.

72. Раённыя ўпаўнаважаныя абавязаны забяспечыць правядзенне кантрольных абходаў іменна тых пунктаў, якія ўказаны абл. (край) рэсп. КНГУ. Замена дапускаецца толькі з дазволам апошняга. Назвы пунктаў, адабраных для кантрольных абходаў, павінны быць засакрэчаны.

73. Кантрольныя абходы праводзяцца асобнымі брыгадамі з прадстаўнікоў сельсоветаў (горсоветаў), партыйных і комсамольскіх арганізацый, профсаюзнага і калгаснага актыву.

74. Кантрольныя абходы арганізуе раённы ўпаўнаважаны, які падбірае кадры брыгадзіраў са складу раённага актыву. Спісы вылучаных брыгадзіраў прадстаўляюцца на зацверджанне РВК. У сувязі з загружанасцю ўчастковых інспектароў работамі па перапісу насельніцтва забараняецца браць участковых інспектароў на работы па кантрольных абходах.

75. Брыгадзіры, якія праводзяць кантрольныя абходы, кіруюцца інструкцыяй ЦКНГУ і дататковымі ўказаннямі КНГУ аб кантрульных прыёмах выяўлення ўтоенай жывёлы, выходзячы з мясцовых умоў утрымання і перасоўвання жывёлы.

76. Рэзультаты кантрольных абходаў запісваюцца ў асобныя акты—спісы, якія па заканчэнню правядзення кантрольных абходаў зараз-жа перадаюцца кіраўнікам брыгады раённаму ўпаўнаважанаму.

77. У выпадку выяўлення кантрольнымі абходамі або спецыяльнай праверкай масавага недаўчота або ўтойвання жывёлы, перапіс жывёлы праводзіцца нанова ў цэлым па раёну або ў асобных інструктарскіх участках. Паўторны перапіс па цэламу раёну праводзіцца толькі па загаду абл. (край) рэсп. КНГУ.

Пры паўторным правядзенні перапісу ў цэлым па раёну або па значнай частцы (больш 1/3 гаспадарак раёна) нанова таксама праводзяцца кантрольныя абходы ў новых кантрольных пунктах, адабраных па тых-жа прынцыпах, што і для першых кантрольных абходаў.

## IX. Тэрміновыя данясенні аб ходзе ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1937 г.

78. Тэрміновае данясенне аб ходзе перапісу пасылаюць:

а) кантралёры-інструктары—участковаму ўпаўнаважанаму зараз-жа пасля заканчэння перапісу насельніцтва ўсімі штотчыкамі інструктарскага ўчастка, але не пазней 7 студзеня 1937 г., г. зн. да пачатку кантрольных абходаў.

Спосабы дастаўкі звестак: асабістае паведамленне, тэлефон, нарачны.

б) Участковы ўпаўнаважаны—загадчык перапісным аддзелам паведамляе раённаму (гарадскому) упаўнаважанаму па перапісу не пазней 8 студзеня 1937 г.

Спосабы дастаўкі звестак: асабіста, тэлефон або тэлеграф, спец. нарачны.

в) Раённы (гарадскі) упаўнаважаны пасылае па тэлеграфу данясенне КНГУ рэспублік, краёў, абласцей на працягу 9 студзеня 1937 г.

Увага: а) Участковыя раённыя (гарадскія) упаўнаважаныя паведамляюць ітогі асобна па сельскіх мясцовасцях і па гарадскіх паселішчах.
*б) Па рэспубліках, у склад якіх уваходзяць акругі, тэлеграма пасылаецца ў 2 адрасы: КНГУ і адпаведнай акрузе.*

79. Ва ўсіх выпадках, калі тэрміновае данясенне пасылаецца па тэлеграфу, аднначасова ў тыя-ж адрасы пасылаюцца тыя самыя звесткі спешнай поштай.

80. Праграма паведамленняў для ўсіх інстанцый:

I. Агульная колькасць шчотных участкаў пры перапісу.

II. Колькасць шчотных участкаў, у якіх перапіс шчотчыкамі закончан.

III. Перапісана насельніцтва абоега полу ва ўчастках, дзе перапіс закончан.

Увага: У радку 1 даецца фактычная колькасць участкаў, быўшая пры перапісу, і не ўстаноўленая да перапісу пры перапісным раёнаванні.

81. Тэлеграмы пасылаюцца толькі шыфрованыя; шыфр для тэлеграм наступны:

„Першае"—агульная колькасць шчотных участкаў пры перапісу

„Другое"—колькасць шчотных участкаў, у якіх перапіс закончан

„Трэцяе"—перапісана насельніцтва абоега полу ва ўчастках, дзе перапіс закончан.

82. Узор шыфрованай тэлеграмы ад райупаўнаважанага: *„Шчуч'е азерскі сельскае першае 337 другое 336 трэцяе 55023 гарадское першае 21 другое 21 трэцяе 4105 Нікіфараў"*.

Гэта тэлеграма азначае, што ў Шчуч'е-азерскім раёне Свердлоўскай вобласці ў сельскіх мясцовасцях агульная колькасць шчотных участкаў пры перапісу была 337, колькасць шчотных участкаў, у якіх перапіс закончан 336, перапісана 55023 чалавека абоега полу; у гарадскіх паселішчах агульная колькасць шчотных участкаў была 21, ва ўсіх перапіс закончан і перапісана ў іх 4105 чалавек абоега полу.

## X. Парадак і тэрміны прадстаўлення папярэдніх ітогаў перапісу насельніцтва

83. Участковы ўпаўнаважаны па перапісу паведамляе папярэднія ітогі перапісу насельніцтва раённаму (гарадскому) упаўнаважанаму не пазней 13 студзеня 1937 года.

84. Раённыя (гарадскія) упаўнаважаныя зараз-жа па атрыманні ітогаў ад кіраўнікоў перапісных аддзелаў і іх праверцы, але не пазней 16 студзеня тэлеграфуюць Бюро перапісу рэспублік, краёў (абласцей) па прыналежнасці даныя аб колькасці насельніцтва па свайму раёну (гораду) з падзелам па полу.

Увага: Па рэспубліках, у склад якіх уваходзяць акругі, тэлеграма пасылаецца аднача́сова ў два адрасы: ў КНГУ і адпаведнай акрузе.

85. Ітогі паведамляюцца:

а) па гарадскіх паселішчах—па кожнаму асобнаму паселішчу;

б) па сельскіх мясцовасцях—па раёну ў цэлым;

в) адначасова гэтыя-ж даныя, але з разбіўкай сельскіх мясцовасцей па сельсоветах, пасылаюцца спешнай поштай.

87. ЦКНГУ Дзяржплана СССР прадстаўляе папярэднія ітогі перапісу СНК СССР 10 лютага 1937 года.

## X. Парадак і тэрміны прадстаўлення ітогаў перапісу жывёлы

88. Каляндарны план распрацоўкі ітогаў перапісу і парадак распрацоўкі наступны:

а) раённыя інспектары паведамляюць край (абл) КНГУ папярэднія ітогі перапісу (па тэлеграфу) 20 студзеня 1937 г., для чаго прыступаюць да распрацоўкі зараз-жа па заканчэнні перапісу:

в) прыёмка ітогаў перапісу ад раённых інспектароў у край (абл.) КНГУ—1/II—15/II; парадак прыёмкі ўстанаўляецца нач. край (абл.) КНГУ;

г) прыёмка ітогаў перапісу ад рэспубліканскіх, краявых і абласных КНГУ у ЦКНГУ—20/II—10/III;

д) прадстаўленне СНК СССР папярэдніх ітогаў—1/III (па тэлеграфных ітогах);

е) здача ў друк канчатковых ітогаў перапісу—5/IV.

89. Пасля заканчэння перапіснай аперацыі (з 15 студзеня 1937 г.) у КНГУ ствараецца для арганізацыі распрацоўкі ітогаў перапісу спецыяльнае бюро перапісу жывёлы.

## Правілы работы кантралёра-інструктара па правядзенню перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы ў гарадскіх паселішчах

1. Кантралёр-інструктар атрымлівае ад участковага ўпаўважанага:

а) схематычны план інструктарскага ўчастка;

б) спіс дваровых участкаў (па кварталах), якія знаходзяцца на тэрыторыі інструктарскага ўчастка, з указаннем па кожнаму домаўладанню прыкладнай колькасці насельніцтва па наяўных даных;

в) спіс дамоў, падлягаючых перапісу насельніцтва ў асобным парадку, калі такія дамы ёсць на тэрыторыі яго ўчастка;

г) колькасць шчотных участкаў па інструктарскаму ўчастку і спіс шчотчыкаў, мабілізаваных на перапіс насельніцтва;

д) перапісныя лісты па перапісу насельніцтва і інструкцыю па запаўненню ліста—на ўвесь інструктарскі ўчастак, а таксама астатнія фармуляры па перапісу насельніцтва; дамовыя спісы, зводныя ведамасці; указанні па рабоце кантралёра-інструктара і шчотчыка і форму справаздачы кантралёра-інструктара;

е) бланкі для запісу рэзультатаў перапісу жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва (ф. № 4) і інструкцыю для іх запаўнення:

ж) спіс гаспадарак учота жывёлы 1936 года;

з) канцылярскія прылады для шчотчыкаў і папку для матэрыялаў перапісаў.

### Разбіўка інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі

2. Выходзячы з устаноўленай на інструктарскі ўчастак колькасці шчотных участкаў, інструктар разбівае свой участак на шчотныя ўчасткі, размяркоўвае шчотчыкаў па ўчастках і паведамляе ім № перапіснога аддзела, № інструктарскага і № шчотнага ўчастка.

Пры разбіўцы тэрыторыі інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі асабліва старанна павінны быць абмежаваны ад сумежных участкі з няправільнай забудовай, наяўнасцю пабудоў, стаячых па-за кварталамі, участкі, якія складаюцца з часткі квартала або нават часткі адной пабудовы і да т. п., у якіх таму асабліва магчымы выпадкі пропуску насельніцтва або падвойнага падліку.

Спіс домаўладанняў, уваходзячых у склад шчотнага ўчастка, уручаецца шчотчыку.

Кантралёр-інструктар абавязан паказаць шчотчыку граніцы яго ўчастка ў натуры шляхам абходу іх разам са шчотчыкам.

3. Калі ў складзе інструктарскага ўчастка ёсць гасцініцы, дамы калгасніка, заезджыя двары і да т. п., то перапіс асоб, начуючых з 5 на 6 студзеня ў такога роду памяшканнях кантралёр-інструктар арганізуе такім чынам, каб гэтыя асобы былі перапісаны раніцой 6 студзеня да таго часу, як яны пачнуць разыходзіцца.

Самы перапіс асоб, начуючых у гасцініцах, у дамах калгасніка, на заезджых дварах і да т. п., кантралёр-інструктар:

а) або даручае правесці шчотчыку таго ўчастка, у склад якога ўваходзіць данае памяшканне, абавязваючы пры гэтым шчотчыка пачаць 6 студзеня перапіс з гэтага памяшкання і ўпісаць перапісаных асоб у свой дамовы спіс і зводную ведамасць;

б) або праводзіць яго сам, калі колькасць начуючых значная, прыцягваючы да перапісу або запаснога шчотчыка, або шчотчыкаў блізка размешчаных участкаў.

У апошнім выпадку такое памяшканне разглядаецца як асобны ўчастак і таму складаецца асобны дамовы спіс і асобная зводная ведамасць.

Папярэдняга запаўнення перапісных лістоў на начуючых у гасцініцах, у дамах калгасніка, на заезджых дварах і да т. п., не патрабуецца, але трэба ўмовіцца з адміністрацыяй памяшкання аб атрыманні раніцой 6 студзеня спіса асоб, якія начавалі тут на дзень перапісу.

Калі хто-небудзь з начаваўшых да прыходу кантралёра-інструктара або шчотчыка ўжо пайшоў ці паехаў, неабходна запісаць яго ў перапісны ліст і даць аб ім адказы на тыя пытанні перапіснога ліста, звесткі па якіх ёсць у адміністрацыі.

4. У выпадку, калі на тэрыторыі інструктарскага ўчастка ёсць больніцы і іншыя ўстановы, у якіх перапіс праводзіцца сіламі працуючага ў іх персанала, кантралёр-інструктар кожную з такіх установ вылучае ў самастойны ўчастак.

Адзін з работнікаў, вылучаемых адміністрацыяй гэтых устаноў на правядзенне перапісу, прызначаецца адказным за перапіс, ён аб'ядноўвае работу ўсіх астатніх, непасрэдна падпарадкоўваючыхся кантралёру-інструктару, збірае ўвесь матэрыял, складае на ўстанову асобны дамовы спіс і зводную ведамасць і здае матэрыялы кантралёру-інструктару.

### Кантроль работы шчотчыкаў і перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва.

5. *Кантралёр-інструктар непасрэдна адказвае за паўнату ўчота насельніцтва і якасць запаўнення перапісных лістоў на ўсёй тэрыторыі інструктарскага ўчастка,*

6. Перш чым дапусціць шчотчыка да работы, кантралёр-інструктар павінен асабіста праверыць, ці цвёрда ўсвоіў шчотчык:

а) парадак правядзення перапісу;

б) інструкцыю да запаўнення пытанняў перапіснога ліста.

Рэкамендуецца пры гэтым правесці пробнае запаўненне перапіснога ліста.

7. Кантроль работы шчотчыка кантралёр-інструктар праводзіць:

а) з 1 па 5 студзеня 1937 г. у часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў;

б) з 7 па 11 студзеня шляхам суцэльнага абходу разам са шчотчыкам усіх памяшканняў, у якіх акажацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек. У часе кантрольных абходаў з 7 па 11 студзеня 1937 года кантралёр-інструктар праводзіць і перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва, пражываючых на іх участку.

### А. Кантроль работы шчотчыкаў у часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў

8. У першыя-ж дні папярэдняга запаўнення кантралёр інструктар абавязан праверыць работу ўсіх шчотчыкаў.

Для гэтага кантралёр-інструктар абавязвае шчотчыкаў прыносіць яму ва ўстаноўленыя дні і гадзіны запоўненыя імі перапісныя лісты для прагляду.

9. Аб усіх заўважаных памылках кантралёр-інструктар неадкладна паведамляе шчотчыку і абавязвае яго выправіць

няправільныя запісы ва ўсіх запоўненых перапісных лістах. Напрыклад:

а) калі ў пытанні 12 перапіснога ліста не паказвалася спецыяльнасць пры няпэўных абазначэннях заняткаў, г. зн. запісвалася „рабочы“, а не „рабочы ля помпы“, „брыгадзір“, а не „брыгадзір - каваль“, „інструктар“, а не „інструктар фізкультуры“ і да т. п.;

б) калі ў пытанні 13 не паказан характар прадпрыемства або установы (род вытворчасці), г. зн. запісана „Чырвоны Маяк“, а не „швейная арцель „Чырвоны Маяк“ і да т. п., або калі назва месца работы скарочана такім чынам, што запіс не кожнаму будзе зразумелы, г. зн. запісана „ЗАДЭМ“ а не „завод дакладнай электрамеханікі“ і да т. п.

10. У выпадку яўна недобрасумленнага выканання шчотчыкам сваіх абавязкаў, кантралёр-інструктар знімае яго з работы, паведамляе аб гэтым участковаму упаўнаважанаму і перадае работу на участку запасному шчотчыку або размяркоўвае яе паміж астатнімі шчотчыкамі. Такую замену кантралёр-інструктар робіць і ў выпадку хваробы шчотчыка.

11. У дзень перапісу 6 студзеня кантралёр-інструктар павінен праверыць, ці ўсе шчотчыкі прыступілі да перапісу.

12. Неадкладна па заканчэнні перапісу, але не пазней раніцы 7 студзеня, кантралёр-інструктар абавязан прыняць ад шчотчыкаў усе перапісныя лісты разам са складзенымі дамовымі спісамі і зводнымі ведамасцямі. Пры прыёме матэрыяла кантралёр-інструктар паведамляе кожнаму шчотчыку, якога чысла ён будзе абходзіць яго ўчастак.

13. На працягу 7 студзеня 1937 г. кантралёр-інструктар пасылае ўчастковаму ўпаўнаважанаму тэрміновае данясенне аб ходзе перапісу насельніцтва па ўстаноўленай праграме.

## Б. Кантрольны абход шчотных участкаў і перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва.

14. Кантралёр-інструктар па кожнаму шчотнаму ўчастку робіць суцэльны абход усіх будынкаў і іншых памяшканняў, у якіх мог аказацца пражываючым у дзень перапісу хоць-бы адзін чалавек, і шляхам *непасрэднага апытання ў кожным памяшканні правярае, ці сапраўды ні адзін чалавек не прапушчан шчотчыкам і ці няма у перапісных лістах асоб, лішні раз запісаных.*

Кантралёр-інструктар павінен старанна праверыць не толькі, ці не было пры перапісу насельніцтва пропускаў паасобных асоб у перапісаных шчотчыкам памяшканнях,

але і ці не было пропуску цэлых пабудоў, у якіх пражывала ў дзень перапісу насельніцтва.

Кожная асоба, прапушчаная шчотчыкам, запісваецца ў перапісны ліст і аб ёй запаўняюцца ўсе пытанні; кожная асоба, лішні раз запісаная, выкрэсліваецца з ліста.

У выпадку пропуску цэлай пабудовы кантралёр-інструктар перапісвае пражываючае у ёй насельніцтва па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня) і аднachасова складае на яе дамовы спіс.

15. Кантралёр-інструктар, робячы кантрольны абход па перапісу насельніцтва, павінен цвёрда памятаць, што як падлік насельніцтва, так і запіс усіх даных у перапісныя лісты робіцца па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня), але ні ў якім разе не па становішчу на дзень кантрольнага абходу.

16. Кантрольны абход па перапісу насельніцтва кантралёр-інструктар робіць у прысутнасці таго шчотчыка, работа якога правяраецца.

Кантрольны абход кватэр робіцца ў парадку іх запісу ў дамовы спіс.

17. Аднachасова з праверкай дакладнасці ўчота шчотчыкам насельніцтва кантралёр-інструктар праглядае запісы на пытанні перапіснога ліста і выпраўляе выяўленыя памылкі.

18. Усе выпраўленні кантралёр-інструктар уносіць пры кантрольным абходзе ў перапісныя лісты асабіста, не даручаючы гэтага шчотчыку. Вынікі праверкі кантралёр-інструктар запісвае ў адпаведныя графы дамовага спісу і зводнай ведамасці па шчотнаму ўчастку.

19. Пры наведванні кожнай кватэры, памяшкання кантралёр-інструктар устанаўляе, колькі гаспадарак і якія гаспадаркі (прозвішча главы гаспадаркі) знаходзяцца у данай кватэры, памяшканні і якія гаспадаркі маюць жывёлу.

Увага. Указанні аб тым, што лічыцца гаспадаркай, даны у інструкцыі да запаўнення ф. № 4.

20. У кожнай гаспадарцы, маючай жывёлу, кантралёр-інструктар спачатку апытвае, колькі жывёлы па відах, па роду і па ўзросту ёсць у гаспадарцы, вынікі апытання запісвае у ф. № 4 і потым робіць праверку паведамленых яму даных шляхам *пераліку жывёлы у натуры.* Калі ў выніку праверкі выяўляецца няправільнасць паведамленых кантралёру даных, кантралёр уносіць у ф. № 4 канчаткова правераныя лічбы.

Увага: Апытанне гаспадарак, запіс рэзультатаў апытання робяцца па ўказаннях інструкцыі да запаўнення ф. № 4. Форма № 4 запаўняецца асобна: а) на жывёлу калгаснікаў, б) жывёлу аднаасобнікаў і в) жы-

вёлу рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва і складаецца па населеных пунктах. У форму № 4 запісваюцца толькі гаспадаркі, якія маюць жывёлу ў домакіраўніцтвах, у якіх частка гаспадарак не мае жывёлы,—прозвішча главы гаспадаркі, не маючай жывёлы заносіцца у асобны спіс і адсутнасць у яе жывёлы сведчыцца распіскай домакіраўніцтва або домаўласніка. У тых выпадках, калі ў домакіраўніцтвах зусім адсутнічаюць гаспадаркі, маючыя жывёлу, — адсутнасць жывёлы сведчыцца домакіраўніцтвам па ўсяму домакіраўніцтву ў цэлым.

21. Праводзячы перапіс жывёлы, кантралёр-інструктар павінен цвёрда памятаць, што перапіс жывёлы робіцца па становішчу на 1 студзеня 1937 г., але ні у якім разе не па становішчу на дзень абходу.

22. *Кантралёр-інструктар нясе персанальную адказнасць за правільнае правядзенне перапісу жывёлы, правільнасць і паўнату запісаў.*

23. Пасля заканчэння перапісу жывёлы на сваім участку кантралёр-інструктар па ф. № 4 падлічвае па кожнай старонцы ітогі і ітогі па ўчастку ў цэлым.

24. Пералік жывёлы ў натуры кантралёр-інструктар робіць у прысутнасці прадстаўніка домакіраўніцтва або жакта.

25. Усе матэрыялы па перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы і справаздачу ўстаноўленай формы кантралёр-інструктар здае ўчастковаму ўпаўнаважанаму зараз-жа па заканчэнню перапісаў, але не пазней 12 студзеня.

## Правілы работы кантралёра-інструктара па правядзенню перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы ў сельскіх мясцовасцях

1. Кантралёр-інструктар атрымлівае ад участковага ўпаўнаважанага:

а) схематычную карту інструктарскага ўчастка з дакладным адмежававаннем граніц участка сумежных інструктарскіх участкаў;

б) спіс населеных пунктаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі інструктарскага ўчастка, з указаннем па кожнаму населенаму пункту прыкладнай колькасці насельніцтва па наяўных звестках;

в) спіс дамоў, падлягаючых перапісу насельніцтва ў асобным парадку, калі такія дамы ёсць на тэрыторыі яго ўчастка:

г) колькасць шчотных участкаў па інструктарскаму ўчастку і спіс шчотчыкаў, мабілізаваных на перапіс насельніцтва;

д) перапісныя лісты па перапісу насельніцтва і інструкцыю па запаўненню ліста на ўвесь інструктарскі ўчастак, а таксама астатнія фармуляры па перапісу насельніцтва: паселішчныя спісы, зводныя ведамасці, указанні па рабоце кантралёра-інструктара і шчотчыка і форму справаздачы кантралёра-інструктара;

е) бланкі для запісу рэзультатаў перапісу жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва (ф. № 3) і інструкцыі да іх запаўнення;

ж) канцылярскія прылады для шчотчыкаў і папку для матэрыялаў перапісаў.

### Разбіўка інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі.

2. Выходзячы з ўстаноўленай на інструктарскі участак колькасці шчотных участкаў, інструктар разбівае свой участак на шчотныя ўчасткі, размяркоўвае шчотчыкаў па ўча-

стках і паведамляе ім № перапіснога аддзела, № інструктарскага ўчастка і № шчотнага ўчастка.

Пры разбіўцы тэрыторыі інструктарскага ўчастка на шчотныя ўчасткі трэба асабліва сачыць, каб усе асобныя, ізалявана размешчаныя, жыллёвыя пабудовы (старожкі, будкі, млыны, школы і да т. п.) былі абавязкова ўключаны ў шчотныя ўчасткі.

Пералік населеных пунктаў, уваходзячых у склад шчотнага ўчастка, паведамляецца шчотчыку.

У тых выпадках, калі населены пункт падзяляецца на два або больш шчотных участкі, кантралёр-інструктар абходзіць са шчотчыкам граніцы яго ўчастка на месцы і дакладна адмяжоўвае кожны ўчастак ад сумежных шчотных участкаў.

Пры адводзе шчотчыкам такіх участкаў кантралёр-інструктар паведамляе кожнаму з іх, хто перапісвае на суседніх шчотных участках.

3. Калі ў складзе інструктарскага ўчастка ёсць дамы калгасніка, заезджыя двары і да т. п., то перапіс асоб, якія начуюць з 5 на 6 студзеня ў такога роду памяшканнях, кантралёр-інструктар арганізуе такім чынам, каб гэтыя асобы былі перапісаны раніцой 6 студзеня да таго часу, як яны пачнуць разыходзіцца.

Самы перапіс асоб, якія начуюць у дамах калгснікаў, на заезджых дварах і да т. п., кантралёр-інструктар:

а) або даручае правесці шчотчыку таго ўчастка, у склад якога ўваходзіць данае памяшканне, абавязваючы пры гэтым шчотчыка пачаць 6 студзеня перапіс з гэтага памяшкання і запісаць перапісныя лісты ў свой паселішчны спіс і зводную ведамасць;

б) або праводзіць яго сам, калі колькасць асоб, начуючых—значная, прыцягваючы па перапісу або запаснога шчотчыка або шчотчыкаў блізка размешчаных участкаў.

У апошнім выпадку такое памяшканне разглядаецца як асобны шчотны ўчастак і таму складаецца асобны паселішчны спіс і асобная зводная ведамасць.

Папярэдняга запаўнення перапісных лістоў на начуючых у дамах калгасніка, на заезджых дварах і да т. п. не патрабуецца, але трэба ўмовіцца з адміністрацыяй памяшкання аб атрыманні раніцой 6 студзеня спіса асоб, начаваўшых тут на дзень перапісу.

Калі хто-небудзь з начаваўшых да прыхода кантралёра-інструктара або шчотчыка ўжо пайшоў ці паехаў, неабходна запісаць яго ў перапісны ліст і даць аб ім адказы на тыя пытанні перапіснога ліста, звесткі па якіх ёсць у адміністрацыі.

4. У выпадку, калі на тэрыторыі інструктарскага ўчастка ёсць больніцы і іншыя ўстановы, у якіх перапіс праводзіцца сіламі працуючага ў іх персанала, трэба рабіць так:

а) вялікія больніцы, санаторыі, дамы адпачынку і т. д. кантралёр-інструктар вылучае ў самастойныя шчотныя ўчасткі; адзін з работнікаў, вылучаемых адміністрацыяй гэтых устаноў на правядзенне перапісу, прызначаецца адказным за перапіс; ён аб'ядноўвае работу ўсіх астатніх, непасрэдна падпарадкоўваючыся кантралёру-інструктару, збірае ўвесь матэрыял, складае на ўстанову асобны паселішчны спіс і зводную ведамасць і здае матэрыял кантралёру-інструктару;

б) у невялікіх установах складзеныя персаналам перапісныя лісты кантралёр-інструктар даручае прыняць і праверыць 6 студзеня шчотчыку таго ўчастка, у склад якога ўстанова ўваходзіць. У даным выпадку асобнага паселішчнага спіса і зводнай ведамасці не складаецца, а шчотчык заносіць персанальныя лісты ў свой паселішчны спіс і зводную ведамасць.

## Кантроль работы шчотчыкаў і перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і інш. груп насельніцтва

*5. Кантралёр-інструктар непасрэдна адказвае за паўнату ўчота насельніцтва і якасць запоўненых перапісных лістоў на ўсёй тэрыторыі інструктарскага ўчастка.*

6. Перш чым дапусціць шчотчыка да работы, кантралёр-інструктар павінен асабіста праверыць, ці цвёрда ўсвоіў шчотчык:

а) парадак правядзення перапісу,

б) інструкцыю да запаўнення пытанняў перапіснога ліста.

Рэкамендуецца пры гэтым правесці пробнае запаўненне перапіснога ліста.

7. Кантроль работы шчотчыка кантралёр-інструктар праводзіць:

а) з 1 па 5 студзеня 1937 г. у часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў;

б) з 7 па 11 студзеня шляхам суцэльнага абходу разам са шчотчыкам і ўпаўнаважаным сельсовета ўсіх двароў і памяшканняў, у якіх акажацца пражываючым хоць-бы адзін чалавек.

У часе кантрольных абходаў з 7 па 11 студзеня кантралёрам-інструктарам праводзіцца і перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва, пражываючых на яго ўчастку.

## А. Кантроль работы шчотчыкаў у часе папярэдняга запаўнення перапісных лістоў

8. У першыя-ж дні папярэдняга запаўнення кантралёр-інструктар абавязан праверыць работу ўсіх шчотчыкаў.

Для гэтага кантралёр-інструктар абавязвае шчотчыкаў, працуючых або пражываючых у месцы прабывання кантралёра-інструктара, прыносіць яму ва ўстаноўленыя дні і гадзіны запоўненыя імі перапісныя лісты для прагляду.

Работу астатніх шчотчыкаў кантралёр-інструктар правярае шляхам наведвання іх участкаў.

9. Аб усіх заўважаных памылках кантралёр-інструктар неадкладна паведамляе шчотчыку і абавязвае яго выправіць няправільныя запісы ва ўсіх запоўненых перапісных лістах.

Напрыклад:

а) калі ў пытанні 12 перапіснога ліста для маючых пэўную спецыяльнасць у сельскай гаспадарцы паказвалася не гэта спецыяльнасць, напрыклад: вартаўнік, даярка, старшыня калгаса, а запісвалася; „сельская гаспадарка“, „с.-г.“;

б) калі не паказвалася спецыяльнасць пры няпэўных абазначэннях заняткаў, г. зн. запісвалася „рабочы“, а не „рабочы па двару“, „брыгадзір“, а не „брыгадзір скотнік“ і т. п.:

в) калі ў пытанні 13 не паказан характар прадпрыемства, установы (род вытворчасці), г. зн. запісана „Чырвоны Маяк“, а не „швейная арцель „Чырвоны Маяк“ і да т. п.; або калі назва месца работы скарочана такім чынам, што запіс не кожнаму будзе зразумелы, г. зн. запісана „РПС“, а не „Райпатрэбсаюз“ і да т. п.

10. У выпадку яўна нядобрасумленнага выканання шчотчыкам сваіх абавязкаў, кантралёр-інструктар знімае яго з работы, паведамляе аб гэтым участковаму ўпаўнаважанаму перадае работу на ўчастку запасному шчотчыку або размяркоўвае яе паміж астатнімі шчотчыкамі. Такую замену кантралёр-інструктар робіць і ў выпадку хваробы шчотчыка.

11. У дзень перапісу 6 студзеня кантралёр-інструктар павінен праверыць, ці ўсе шчотчыкі прыступілі да перапісу.

12. Неадкладна па заканчэнні перапісу, але не пазней раніцы 7 студзеня, кантралёр-інструктар абавязан прыняць ад шчотчыкаў усе перапісныя лісты разам са складзенымі паселішчнымі спісамі і зводнымі ведамасцямі. Пры прыёме матэрыяла кантралёр-інструктар паведамляе кожнаму шчотчыку, якога числа ён будзе абходзіць яго ўчастак.

13. На працягу 7 студзеня 1937 г. кантралёр-інструктар пасылае ўчастковаму ўпаўнаважанаму тэрміновае данясенне аб ходзе перапісу насельніцтва па ўстаноўленай праграме.

## В. Кантрольны абход шчотных участкаў і перапіс жывёлы ў гаспадарках калгаснікаў, аднаасобнікаў, рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва.

14. Кантралёр-інструктар у кожным населеным пункце робіць суцэльны абход усіх будынкаў і іншых памяшканняў, у якіх мог аказацца пражываючым у дзень перапісу хоць-бы адзін чалавек і *шляхам непасрэднага апытання ў кожным памяшканні правярае, ці сапраўды ні адзін чалавек не прапушчан шчотчыкам і ці няма ў перапісных лістах асоб, лішні раз запісаных.*

Кантралёр-інструктар павінен старанна праверыць не толькі, ці не было пропускаў паасобных асоб у перапісаных шчотчыкам памяшканнях, але і ці не было пропуску *цэлых пабудоў*, у якіх пражывала ў дзень перапісу насельніцтва, або нават *паасобных населеных пунктаў* (старожак, чыгуначных будак і да т. п.).

Кожная асоба, прапушчаная шчотчыкам, запісваецца ў перапісны ліст і аб ёй запаўняюцца ўсе пытанні; кожная асоба, лішні раз запісаная, выкрэсліваецца з ліста.

У выпадку пропуску цэлай пабудовы кантралёр-інструктар перапісвае пражываючае ў ёй насельніцтва па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня) і заносіць яго ў паселішчны спіс.

Пры пропуску населенага пункта кантралёр-інструктар перапісвае пражываючае ў ім насельніцтва і адначасова складае на яго паселішчны спіс.

15. Кантралёр-інструктар, робячы кантрольны абход па перапісу насельніцтва, павінен цвёрда памятаць, што як падлік насельніцтва, так і запіс усіх даных у перапісныя лісты робіцца па становішчу на дзень перапісу (6 студзеня), але ні ў якім разе не па становішчу на дзень кантрольнага абходу.

16. Адначасова з праверкай дакладнасці ўчота шчотчыкам насельніцтва кантралёр-інструктар праглядае запісы на пытанні перапіснога ліста і выпраўляе выяўленыя памылкі.

17. Усе выпраўленні кантралёр-інструктар уносіць пры кантрольным абходзе ў перапісныя лісты асабіста, не даручаючы гэтага шчотчыку. Рэзультаты праверкі кантралёр-інструктар запісвае ў адпаведныя графы паселішчнага спіса і кантрольнага ліста.

18. Пры наведванні кожнага памяшкання кантралёр-інструктар устанаўляе, колькі гаспадарак і якія гаспадаркі (прозвішча галавы гаспадаркі) знаходзяцца ў даным памяшканні, і праводзіць па кожнай гаспадарцы перапіс належачай гэтай гаспадарцы жывёлы па ф. № 3.

Увага: Указанні аб тым, што лічыцца гаспадаркай, даны ў інструкцыі да запаўнення ф. № 3.

19. У кожнай гаспадарцы кантралёр-інструктар спачатку апытвае, колькі жывёлы па відах, па роду і па ўзросту ёсць у гаспадарцы, рэзультаты апытання запісвае ў ф. № 3 і потым робіць праверку паведамленых яму даных шляхам *пераліку жывёлы ў натуры*. Калі ў выніку праверкі выяўляецца няправільнасць паведамленых кантралёру даных, кантралёр уносіць у ф. № 3 канчаткова правераныя лічбы.

Увага: Апытанне гаспадарак, запіс рэзультатаў апытання робіцца па ўказаннях інструкцыі да запаўнення ф. № 3. Форма № 3 запаўняецца асобна: а) на жывёлу калгаснікаў, б) жывёлу аднаасобнікаў і в) жывёлу рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва і складаецца па населеных пунктах. У форму № 3 запісваюцца ўсе гаспадаркі, як маючыя жывёлу, так і немаючыя яе.

20. Праводзячы перапіс жывёлы, кантралёр-інструктар павінен цвёрда памятаць, што перапіс жывёлы праводзіцца па становішчу на 1 студзеня 1937 г., але ні ў якім разе не па становішчу на дзень абходу.

21. *Кантралёр-інструктар нясе персанальную адказнасць за правільнае правядзенне перапісу жывёлы, правільнасць і паўнату запісаў.*

22. Пасля заканчэння перапісу жывёлы на сваім участку кантралёр-інструктар па ф. № 3 падлічвае па кожнай старонцы ітогі, ітогі па населеных пунктах і ўчастку ў цэлым.

23. Кантрольны абход па перапісу насельніцтва кантралёр-інструктар абавязкова робіць разам з упанаўважаным сельсовета ў прысутнасці таго шчотчыка, работа якога правяраецца. Упаўнаважаны сельсовета абавязкова прысутнічае таксама пры пераліку жывёлы ў натуры і запісу ітогаў у ф. № 3.

Кантрольны абход двароў робіцца ў парадку іх запісу ў паселішчны спіс.

24. Усе матэрыялы па перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы і справаздачу ўстаноўленай формы кантралёр-інструктар здае ўчастковаму ўпаўнаважанаму зараз-жа па заканчэнню перапісаў, але не пазней 12 студзеня.

## Усім раённым інспектарам Наргасучота.

Рашэннем СНК СССР аб усесаюзным перапісе насельніцтва пастаўлена перад органамі Наргасучота вельмі складаная і сур'ёзная задача, якая ўскладняецца яшчэ тым, што работа па перапісу жывёлы аб'ядноўваецца з перапісам насельніцтва.

Поспех правядзення перапісу насельніцтва і перапісу жывёлы цалкам залежыць ад якасці і тэрмінаў выканання ўсіх падрыхтоўчых работ.

Першай буйнай работай ва ўсёй сістэме падрыхтоўчых работ да прадстаячага перапісу насельніцтва і жывёлы з'яўляецца складанне спісаў населеных пунктаў і ўтачненне маючыхся ці складанне новых схематычных карт сельсаветаў, раёнаў і планаў гарадоў. Але-ж не ўсе інспектуры падыйшлі да гэтай работы з усёй сур'ёзнасцю. Ужо першы выезд у раёны кіруючых работнікаў Кіраўніцтва Наргасучота пацвярждае гэта. Рад райінспектараў: Крычаўскі—тав. *Лукашук*, Дубровенскі—тав. *Жукаў*, Добрушскі—тав. *Праказаў*, Багушэўскі—тав. *Паўленка* і інш. гэтую работу перадаверылі выключна ўчастковым інспектарам, не кіравалі іх работай і не правяралі ходу і якасці работ участковых інспектароў, у выніку чаго было выяўлена шмат прапушчаных населеных пунктаў. Такое-ж становішча з утачненнем схематычных карт сельсаветаў і раёнаў. Зусім фармальна падыйшлі да ўтачнення схематычных карт інспектары: Мсціслаўскага раёна—тав. *Белоў*, Мазырскага—тав. *Галубчыкаў*, Расонскага—тав. *Цэйтлін* і шэраг іншых, якім былі звернуты ўсе схематычныя карты сельсаветаў для ўтачнення і ўвязкі са спісамі населеных пунктаў.

Побач з гэтымі інспектарамі маюцца такія райінспектары як, Сіроцінскі—тав. *Садоўскі*, Бешанковіцкі—тав. *Кулакоўскі*, Гомельскі—тав. *Глушакоў* і інш., якія цягнуцца ў хвасце і ніяк не могуць скончыць выверку спісаў населеных пунктаў з планшэткамі сельсаветаў, не гледзячы на тое, што тэрміны ужо даўно прайшлі. Невыкананне заданняў у тэрмін, як і нядобраякаснае выкананне, тармозяць разгортванне іншых надыходзячых падрыхтоўчых работ.

Прапаную памянёным райінспектарам неадкладна ліквідаваць такія адносіны да выканання заданняў па перапісу.

Падбор кадраў—важнейшы і рашаючы момант у падрыхтоўцы да перапісу, а таму да падбору перапіснога персанала прапануецца вам падыйсці з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю, бо ад якасці падабранага персанала залежыць і поспех правядзення перапісу.

Пры падборы асоб для ўдзелу ў перапісе кожную кандыдатуру неабходна разглядаць з пункту погляду палітычнай вытрыманасці асобы і адбіраць толькі асоб тэхнічнапісьменных і здольных самастойна правільна разабрацца і растлумачыць асобныя пункты перапіснога ліста як пры інструктажы, так і пры запаўненні. У адносіне кіруючага персанала звярніце асаблівую ўвагу і на арганізацыйную здольнасць той ці іншай асобы.

Асноўнымі кантынгентамі камплектавання кадраў для перапісу з'яўляюцца: настаўнікі, вучні старшых класаў сярэдніх школ, студэнты ВНУ і тэхнікумаў, канторскі персанал прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў, соўгасаў і МТС.

Пры падборы і намячэнні асоб на той ці іншы ўчастак работы па перапісу ўлічвайце тэрмін, на які яны павінны быць аслабанены ад сваёй асноўнай работы.

На кіруючую работу па перапісу, па магчымасці, падбірайце ў першую чаргу людзей, якія ўжо ўдзельнічалі ў масавых статыстычных работах (па перапісу насельніцтва 1926 г., па перапісах жывёлы і інш.).

Толькі пры ўважлівым падыходзе да падбору кадраў перапісу і вывучэнні кожнай кандыдатуры на працягу часу, які застаўся да перапісу, праводзячы гэтую работу сумесна з мясцовымі кіруючымі арганізацыямі раёна, органы Наргасучота забяспечаць добраякаснае правядзенне перапісу.

Тэрмін для падбору кадраў удзельнікаў перапісу ўстанаўляецца наступны:

а) памочнікі райупаўнаважаных, горупаўнаважаныя і ўчастковыя ўпаўнаважаныя па гораду і сялу—10 верасня;

б) памочнікі ўчастковых упаўнаважаных, інструктары-кантралёры, шчотчыкі і рэгістратары для перапісу жывёлы—10 кастрычніка.

Акрамя пералічаных вышэй работ, райінспектурам прадстаіць правесці яшчэ і такія работы, як запаўненне паселеных карт, складанне спісаў прадпрыемств, устаноў і арганізацый раёна, складанне спісаў дваровых участкаў у гарадах і гарадскіх паселішчах, а таксама падрыхтоўка да перапісу жывёлы, які будзе праводзіцца адначасова з перапісам насельніцтва.

